

З КАЛЯДАМІ!

# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

4 студзеня 2019 года №1 (1236) 18+

**На Вілейшчыне шматдзетная маці напілася снатворнага, бо муж не ўзяў яе ў краму.** старонка 4



ISSN 1991–7155




Адсканууйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/



# Па Маладзечне прайшлі Дзяды Марозы

## А па Вілейцы – праехалі

старонка 20

Фота Андрэя РАГІНСКАГА.

# Мы вызначылі самых яркіх герояў «РГ» у 2018

## Рэдакцыя называе вынікі акцыі «Асоба года»


Асоба года-2018 – Віталь Качаткоў.


Валянціна Сідоркіна.


Ганна Холад.


Алег Куралесаў.


Мінскі абласны драматычны тэатр.


Іван Дурэйка.


Міхаіл Міхалевіч.

**Ужо традыцыйным для нашых чытачоў стала акцыя «Асоба года».**

У снежні мы складаем спіс з самых яркіх, на наш погляд, герояў публікацый. За 2018 год мы абралі 32 пазіцыі – людзі, якія запомняцца яркімі і важнымі справамі, дзякуючы якім год быў менавіта такім, якім запомніцца.

### Глядацкія сімпатыі

Паводле правілаў, пераможцаў у асноўных намінацыях абірае калектыў рэдакцыі. А чытачы падчас галасавання абіраюць таго, хто атрымае «Прыз глядацкіх сімпатый».

Сёлета мы правялі галасаванне праз форму ў сацыяльнай сетцы. Такі спосаб мы абралі, каб максімальна абараніць галасаванне ад накрутак. На 10 гадзін 2 студзеня найбольшую колькасць галасоў – 311 – сабралі маладзечанкі **Валянціна Сідоркіна** і **Ганна Холад**. Менавіта яны забіраюць намінацыю «Прыз глядацкіх сімпатый». Жанчыны запалілі серыю актыўнасцяў, якія зрабілі Маладзечна ў 2018 усё больш крэатыўным горадам.

Зладзілі фэст «Прышчэпка», на якім сабралі мноства разнастайных інтэрактыўных пляцовак. Арганізавалі серыю сустрэч, дзе гараджане маглі абмеркаваць, чаго не хапае ў горадзе і як гэта ўвасобіць. Зладзілі інклюзіўныя фэсты. Упрыгожылі тэрыторыю міні-рынку па вуліцы Францыска Скарыны і зрабілі пілотную прэзентацыю вуліцы Стрыт-фуда. Атрымалі прыз у конкурсе сацыяльных праектаў Social Weekend – 10 000 рублёў на стварэнне гарадской крэатыўнай прасторы. Таксама жанчыны паспелі выпусціць і прэзентаваць крэатыўную карту горада.

### Адкрыццё года

Пераможцаў астатніх намінацый абірае рэдакцыя. У папярэднія гады гэта былі «Учынак года», «Натхненне года», і, вядома, галоўная пазіцыя – «Асоба года». Аднак сёлета мы вырашылі пашырыць гэты спіс і дадаць намінацыю «Адкрыццё года». І вырашылі, што такім адкрыццём для нас і для нашых чытачоў стаў **Алег Куралесаў**, які заснаваў сядзібу ў Навасадах.

Алег адмовіўся ад магчымасці жыць у Германіі, бо вырашыў, што ў беларускай вёсцы знойдзе больш свабоды. Набыў дом у вёсцы на Вілейшчыне, які добраўпарадкоўвае сваімі рукамі. Зарабляць ён ездзіць у Мінск. Сёлета сабраў грошы, каб пажыць нейкі час у Швейцарыі, але вырашыў выдаткаваць іх на фестываль «Дом ля возера». Падчас фестывалю выступалі эксперты ў розных накірунках, адбываліся розныя актыўнасці і гульні.

Пасля Алег праводзіў некалькі сустрэч з кінапаказамі, зладзіў навагоднее свята. Адметнасць жыхара Навасадаў у тым, што ён спрабуе ў адзіночку ажывіць вёску, стварыць творчую і свабодную атмасферу за ўласныя грошы ва ўласным падворку. Да сваіх імпрэзаў ён у першую чаргу далучае вяскоўцаў, якім бракуе культурнага баўлення часу.

### Натхненне года

«Натхненнем года» для калектыву рэдакцыі стаў клопат **Івана Дурэйкі** і **Міхаіла Міхалевіча** пра вяз з Верхніх Талуёў Маладзечаншчыны. У 2013 годзе Міхалевіч зрабіў краязнаўчую працу, у якой даследаваў гісторыю вяза. Артыкул у «РГ» пра гэта прачытаў Дурэйка. Матэрыял расплюшчыў яму вочы, і мужчына, які нядаўна страціў жонку, знайшоў сваё прызванне ў клопаце аб дрэве.

Некалькі год таму мужчыны заўважылі, што дрэва пачало сохнуць – сажалка ля яго губляла вільгаць, і яму не хапала сілкавання. Разам яны пачалі біць у званы і прыцягваць увагу – сохне найстарэйшы вяз краіны, а, магчыма, і нават Еўропы.

Пасля артыкулаў у «РГ» і іх перадрукаў арганізавалася грамадскасць, гатовая дапамагчы выратаваць дрэва. Маркаўскі сельвыканкам і Маладзечанская інспекцыя ахова прыродных рэсурсаў дапамаглі актывістам. Яны арганізавалі і зладзілі суботнік, дзе расчысцілі сажалку, вакол пасадзілі алеі. А вясной абяцаюць добраўпарадкаваць тэрыторыю, каб сюды маглі прыязджаць з розных мясцін – падзівіцца на дрэва-старажыла. Прыклад Дурэйкі і Міхалевіча натхняе не спыняцца ў дасягненні мэты, змагацца за яе – і тады вы запаліце іншых, і справа пойдзе на лад.

### Учынак года

Пастаноўкі Мінскага абласнога драматычнага тэатра заўсёды самабытныя і запамінальныя. Аднак сёлета мастацкі кіраўнік **Валер Анісенка** паставіў спектакль «Час сэканд хэнд» па творах Нобелеўскага лаўрэата **Святланы Алексіевіч**.

Гэта не толькі эмацыйная і якасная пастаноўка, яна смелая, пранізлівая і ўражвальная. У пастаноўцы задзейнічалі амаль усю трупу – у прэм'еры ўдзельнічалі **Аляксей Карпец**, **Дзяніс Фешчанка**, **Барыс Донін**, **Эмілія Ларыёнава**, **Ірына Кляпацкая**, **Ірына Камышава**, **Людміла Рошчына**, **Павел Святоха**, **Сяргей Карзей**, **Таццяна Карпец**, **Валер Бабкін** і **Кацярына Панедзька**, **Алена Рахмангулава**. Аднак спектакль – гэта шматузроўневая праца многіх спецыялістаў. Таму ў намінацыі «Учынак года» мы аддаём перамогу калектыву тэатра.

### Асоба года

Абраць «Асобу года» заўсёды няпроста. Гэта павінны быць той, чыя дзейнасць выходзіць за межы працы, хто гне сваю важную лінію, нягледзячы на перашкоды, хто можа быць узорам для іншых. Наша акцыя – іміджавая ўзнагарода, якой мы паказваем, якімі справамі захапляемся і што лічым прыкладам.

Галоўную перамогу і тытул «Асоба года-2018» па версіі «Рэгіянальнай газеты» мы аддаём **Віталю Качаткову**. Гэта асоба, якой немагчыма не захапляцца. У яго хапае часу і імпэту на любую справу, якой бы ні заняўся. Ён заўсёды з любоўю расказвае пра жонку, **Наталлю**. Не шкадуе часу на выхаванне траіх дзяцей – **Эдуарда**, **Алісы** і **Сёмы**.

Ён пабудаваў паспяховы бізнес і займаецца рознымі накірункамі – магазінамі сантэхнікі і сэканда хэнда, банкетнай залай, фотазонай.

Ён паспяхова займаецца музыкай і як кампазітар, і як спявак. І не спыняецца вучыць шахматам дзяцей і дарослых. Сёлета маладзечанец падрыхтаваў другую кнігу задач па шахматах. Пастаянна праводзіць навучанні ў розных формах – усё для таго, каб садзейнічаць інтэлектуальнаму развіццю грамадства.

Віталь Качаткоў – гэта прыклад адказнага і разумнага стаўлення да кожнага боку свайго жыцця, умення жыць асэнсавана і дабівацца поспеху. Рабіць тое, што лічыш важным і што любіш, нягледзячы ні на якія перашкоды. Гэта ўзор, як гарманічна спалучаць розныя сферы жыцця і заставацца сабой, Асобай. Таму мы з гонарам аддаём гэты, па нашым меркаванні, высокі тытул, менавіта яму.

Няхай у новым годзе вашы мары таксама ператвараюцца ў планы, і пра вашы справы мы напішам і скажам: «Гэта зрабіў не проста чалавек, а Асоба».

**Аддзел інфармацыі.**
**Фота з архіва «РГ».**


Рыбакі ў сацыяльных сетках хваляцца сваімі трафеямі.

# Што трэба ведаць аматарам зімовай рыбалкі

**З пачаткам ледаставу ў Мядзельскую міжраённую інспекцыю аховы жывёльнага і расліннага свету ўсё часцей паступаюць званкі ад рыбаловаў-аматараў з мэтай растлумачыць правілы зімовай рыбалкі.**

МЯДЗЕЛ

Згодна з дзеючымі Правіламі вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства, нельга пакідаць устаноўленыя прылады рыбалоўства без візуальнага кантролю.

Калі нешта з вашых безнаглядных рыбалоўных прылад знойдуць, іх прызнаюць безгаспадарнымі (браканьерскімі) і канфіскуюць органы рыбалоўнага кантролю.

Таксама забараняецца аматарская лоўля рыбы з выкарыстаннем "кружкоў", "жарліц", "ставак", "калабашак" і іншых аналагічных сістэм ноччу, а таксама без указання на іх прозвішча і ініцыялаў рыбалова, які ловіць рыбу.

Забараняецца ўезд і перамяшчэнне ў рыбалоўных угоддзях, у тым ліку пакрытых лёдам, механічных транспартных сродкаў. Нельга прымяняць для рыбнай лоўлі падвойныя і патройныя кручкі без блешні, натуральнай або штучнай прынады.

Нельга лавіць рыбу на адлегласці бліжэй за 50 метраў ад абазначаных прамысловых прылад рыбалоўства.

Забараняецца таксама адначасова выкарыстоўваць адзін або розныя віды прылад рыбалоўства з агульнай колькасцю кручкоў больш за пяць штук. Але гэты пункт мае некалькі выключэнняў. На вадаёмах, перададзеных у арэнду або карыстанне арандатарам, можа быць арганізаванае аматарскае рыбалоўства з агульнай колькасцю кручкоў да дзесяці штук на аднаго рыбалова. Такі спосаб рыбалоўства арганізаваны за плату, да прыкладу, на вадаёмах Нацыянальнага парку «Нарачанскі».

Таксама лавіць рыбу з прыладай да дзесяці кручкоў на вадаёмах фонду запасу могуць сябры Таварыства паляўнічых і рыбаловаў. Але за выключэннем некаторых вадаёмаў. Напрыклад, у Вілейскім раёне да такіх адносяцца рэкі Вілія і Ілья.

Азнаёміцца з поўным пералікам рыбалоўных угоддзяў фонду запасу, на якіх дзейнічаюць абмежаванні па спосабах лоўлі рыбы, усе зацікаўленыя могуць на сайце Дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь.

Пра ўсе выпадкі парушэння прыродаахоўнага заканадаўства просьба паведамляць па тэлефоне **8 01797 50740** у Мядзельскую міжраённую інспекцыю альбо на «тэлефон даверу» Дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь – **(8-017) 39 00000**, або на тэлефон **102**.

**Раман ЛЕСІН,**
**Мядзельская міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету.**

## Дзе ў рэгіёне самая вялікая напружанасць з занятасцю насельніцтва

МАЛАДЗЕЧНА
ВІЛЕЙКА
ВАЛОЖЫН

Урад вызначыў тэрыторыі з напружанай сітуацыяй на рынку працы на 2019 год. У спісе апынуліся 53 раёны і гарады. Гэта прадугледжана пастановай Саўміна ад 27 снежня 2018 года №950.

Лідары па колькасці праблемных з занятасцю рэгіёнаў – Мінская і Віцебская вобласці.

На Міншчыне горшая, чым у іншых раёнах, сітуацыя з занятасцю ў Вілейскім, Валожынскім, Маладзечанскім раёнах. Таксама ў спіс трапілі Барысаў, Клецк, Капыль, Крупкі, Любань, Нясвіж, Пухавічы, Слуцк, Салігорск, Стоўбцы, Узда, Чэрвень.

**Паводле tut.by.**

## Базавая велічыня вырасце з 1 студзеня на адзін рубель

Базавая велічыня з 1 студзеня вырасце да 25 рублёў 50 капеек.

Цяпер базавая велічыня складае 24,5 рубля, такім чынам яна вырасце на адзін рубель.

Ад базавай велічыні залежаць памеры некаторых дапамог, стыпендый, падаткаў і збораў, штрафаў, іншых выплат.

**Паводле БелТА.**

## Жанчын са Смаргоні і Ашмянаў узнагародзілі ордэнам Маці

СМАРГОНЬ
АШМЯНЫ

26 снежня **Аляксандр Лукашэнка** падпісаў загад аб узнагароджанні ордэнам Маці жанчын, якія нарадзілі і гадуюць пяць і больш дзяцей. У спісе ёсць прадстаўніцы Смаргоншчыны і Ашмяншчыны.

Гэта жыхаркі Смаргоні **Ніна Адосій** і **Алена Бароўская**. Першая – гаспадыня, другая працуе ў сталовай Смаргонскай школы №2.

**Алена Папова, Таццяна Рапецкая** і **Алена Чарняўская** – прадстаўніцы Ашмяншчыны. Алена Папова – маці-выхавальнік дзіцячага дома сямейнага тыпу ўпраўлення адукацыі Ашмянскага райвыканкама. Таццяна працуе сацыяльным работнікам. Алена Чарняўская – прадавец.

**Паводле PRESIDENT.GOV.BY.**

**ЛІЧБА НУМАРА**

**818** МЕСЦАЎ.

ТАКАЯ ЗАБЕСПЕЧАНАСЦЬ Ў РАЗЛІКУ НА 1000 ДЗЯЦЕЙ БЫЛА ВА ЎСТАНОВАХ ДАШКОЛЬНАЙ АДУКАЦЫІ ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ 2-5 ГОД У 2018 ГОДЗЕ.

ПАВОДЛЕ НАЦСТАТ.

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 27.12 | 3.01 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.1507 | **2.1701** |
| Еўра | 2.4505 | **2.4865** |
| Злоты, 10 | 5.7167 | **5.7701** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.1132 | **3.1176** |
| Грыўня, 100 | 7.8950 | **7.8315** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | **26.12** | **2.01** |
| Еўра | 2.4280/2.4480 | **2.4630/2.4990** |
| Долар ЗША | 2.1330/2.1530 | **2.1530/2.1790** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | **26.12** | **2.01** |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 18,45 | **18,45** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 4,10 | – |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 7,21 | **7,21** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,00 | **10,00** |
| Карп жывы, 1 кг | 4,70 | – |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,85 | – |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | – |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,80 | – |
| Грэчка, 0,8 кг | – | – |
| Рыс, 0,8 кг | – | – |
| Алей, 1 л | 3,00 | – |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | – |
| Маянэз, 400 г | 2,15 | – |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,60 | – |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,80 | – |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 2,00 | 2,00 |
| Агуркі, 1 кг | 4,80 | 5,50 |
| Бульба, 1 кг | 0,50 | – |
| Буракі, 1 кг | 0,70 | – |
| Капуста, 1 кг | 0,90 | – |
| Капуста пекінская, 1 кг | 1,70 | **2,30** |
| Морква, 1 кг | 0,85 | – |
| Памідоры, 1 кг | 4,30 | **4,80** |
| Перац, 1 кг | 5,90 | **6,50** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,95 | – |
| Часнок, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Шампіньёны, 1 кг | 4,50 | **8,90** |
| Ананас, 1 кг | 12,00 | **8,00** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Бананы, 1 кг | – | – |
| Вінаград, 1 кг | 3,50 | – |
| Гранат, 1 кг | 4,50 | **3,80** |
| Грушы, 1 кг | 3,50 | **3,00** |
| Ківі, 1 кг | – | – |
| Лімоны, 1 кг | 3,50 | **3,00** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Хурма, 1 кг | 3,90 | **3,20** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,30 | **1,30** |
| Грэцкі арэх, ядро, 1 кг | | |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | 1,50 |
| Масла, 1 кг | 15,00 | 15,00 |
| Сала, 1 кг | 12,50 | 12,50 |
| Сыр, 1 кг | – | – |
| Тварог, 1 кг | 7,00 | 7,00 |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | 3,00 |

## У Астраўцы гарэла крама

АСТРАВЕЦ

Пажар здарыўся 24 снежня каля 16:00.

Гарэла прыбудова да крамы гаспадарчых тавараў «Лабірынт» на вуліцы Камсамольскай. Агонь пашкодзіў частку даху.

Мяркуюць, прычынай стаў ацяпляльны кацёл.

**Паводле сайта МНС.**

## Адзін забыўся картку ў банкамаце. Другі ёй разлічыўся

АСТРАВЕЦ

Падазраванага затрымалі 15 снежня. А гісторыя пачалася ў лістападзе.

21 лістапада ў Астравецкі РАУС звярнуўся 29-гадовы мясцовы жыхар. Ён расказаў, што ўвечары 20 лістапада яго банкаўская плацежная картка засталася ў інфакіёску, пасля чаго з яе дапамогай хтосьці двойчы аплаціў віртуальныя забавы. Пасля пацярпелы заблакаваў карту, што не дазволіла невядомаму аплаціць пакупкі ў дзвюх крамах.

Астравецкі РАСК узбудзіў крымінальную справу. Следчы **Дзмітры Мінько** правёў шэраг следчых і працэсуальных дзеянняў, у тым ліку забраў і вывучыў запісы камер відэаназірання з аб'ектаў горада. Гэта дазволіла яму атрымаць малюнак меркаванага падазраванага.

У выхадны дзень 15 снежня Дзмітры Мінько знаходзіўся ў горадзе і на вуліцы звярнуў увагу на трох маладых людзей. Улічваючы, што адзін з іх па прыкметах быў падобны да фігуранта па яго крымінальнай справе, следчы вырашыў яго затрымаць. Перадаў адпаведнае паведамленне ў міліцыю, працягнуўшы пераследаваць мужчыну. Супрацоўнікі раённага аддзялення аб'яднання «Ахова» правялі затрыманне маладога чалавека.

Падазраваны – 20-гадовы хлопец. Ён раней не прыцягваўся да крымінальнай адказнасці, цалкам прызнаў сваю віну і кампенсаваў прычыненую пацярпеламу шкоду. Расследаванне крымінальнай справы працягваецца.

**Паводле сайта Следчага камітэта.**

## У маладзечанкі ў бары з кішэні выцягнулі мабільнік

МАЛАДЗЕЧНА

Здарэнне адбылося 29 снежня. У гэты ж дзень узбудзілі крымінальную справу.

У міліцыю звярнулася 34-гадовая жыхарка Маладзечна. Яна паведаміла, што ў адным з бараў каля дзвюх гадзін ночы ў яе скралі мабільнік. Невядомы выцягнуў яго з кішэні штаноў.

У злачынстве падазраюць 37-гадовага мясцовага жыхара. Мужчыну затрымалі.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## Работнік МНС выратаваў дваіх чалавек з задымленага дома

АШМЯНЫ

Работнік МНС у вольны ад службы час выратаваў гаспадара і яго сужыцельніцу.

Паведамленне пра задымленне дома па Горнай у Ашмянах паступіла 1 студзеня ў 19:36. Работнік МНС выратаваў гаспадара 1949 года нараджэння і яго сужыцельніцу 1953 г.н.

Прычына задымлення – тленне рызза на гарачай печы.

**Паводле сайта МНС.**

● УВАГА, ВЫШУК!

## Міліцыя шукае віляйчаніна

ВІЛЕЙКА



Вілейскі РАУС шукае 45-гадовага **Сяргея Станіслававіча Балваку**.

Мужчына – ураджэнец і жыхар Вілейкі. Жыве па адрасе: вуліца Кастрычніцкая, 23-49.

21 снежня ён пайшоў з дому і да гэтага часу пра яго месцазнаходжанне нічога невядома, распавялі ў Вілейскім РАУС.

**Прыкметы:** на выгляд 45-50 гадоў, рост 165-170, худы, з залысінай на лбе. Вочы зялёныя. Памер абутку 40-41. Асобых прыкмет не мае. Злоўжывае спіртным, курыць.

**Быў апрануты:** чорная шапка, зялёны бушлат, шэры світар з рознакаляровымі ўстаўкамі, чырвоная майка, спартыўныя штаны, белыя красоўкі з чырвонымі ўстаўкамі.

Калі вам вядома, дзе знаходзіцца Сяргей Балвака, тэлефануйце ў Вілейскі РАУС на нумары: **8 (01771) 56462** або **102**.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Пакуль мужа не было дома, пакрыўджаная жонка напілася таблетак.

# Шматдзетная мама напілася снатворнага, бо муж не ўзяў у краму

ВІЛЕЙКА

**Здарэнне адбылося 30 снежня на Вілейшчыне.**

Муж сабраўся ехаць з суседам у магазін. Жонка таксама хацела паехаць, але муж не браў яе, бо не было з кім пакінуць дзяцей.

У выніку жанчына пакрыўдзілася, а мужчына пайшоў. Жонка ў гэты час выпіла некалькі таблетак снатворнага.

У хуткім часе муж вярнуўся, бо машына не завялася. Убачыў пустую ўпакоўку ад лекаў. Жонка спачатку адмаўлялася, што піла. Потым прызналася.

Муж выклікаў «хуткую дапамогу».

Як распавялі ў Вілейскім РАУС, таблеткі, што выпіла жанчына, былі на раслінай аснове, таму вялікай шкоды на арганізм не аказалі. Шматдзетная мама проста праспала да наступнага ранку.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У Смаргоні мужчына пашкодзіў руку петардай

СМАРГОНЬ

Сустрэча Новага года ў Смаргоні не абышлася без здарэнняў.

У навагоднюю ноч 37-гадовы мінчанін падчас выбуху петарды траўмаваў сабе руку. Мужчыну забралі ў бальніцу.

**Паводле УУС Гродзенскага аблвыканкама.**

## Ноччу жыхары вілейскай шматпавярхоўкі прачнуліся ад пажару ў пад'ездзе

ВІЛЕЙКА

Пра задымленне ў адным з пад'ездаў дзевяціпавярховага дома ў Вілейцы па вуліцы Гагарына, 12 паведамілі 28 снежня каля трох гадзін ночы.

Калі прыехалі першыя выратавальнікі, вялікае задымленне было на чацвертым і пятым паверхах.

Гарэлі ўваходныя драўляныя дзверы ў адной з кватэр. Агонь на дзвярах патушылі. Іншых крыніц узгарання не знайшлі.

Падчас пажару кватэра была зачыненая, гаспадароў дома не было.

Па словах інжынера інспекцыі нагляду і прафілактыкі **Аляксандра Казакевіча**, справай цяпер займаецца Вілейскі РАСК. Над устанаўленнем прычыны і магчымага вінаватага будуць працаваць следчыя.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У першы дзень года ля Маладзечна здарылася ДТЗ

МАЛАДЗЕЧНА

Аварыя адбылася першага студзеня каля шасці гадзін вечара.

Недалёка ад Маладзечна, на першым кіламетры дарогі Маладзечна-Смаргонь, 61-гадовая жыхарка Маладзечаншчыны на Citroen C3 няправільна выбрала хуткасць, не ўлічыла складаныя дарожныя ўмовы і неспрыяльнае надвор'е.

У выніку жанчына не справілася з кіраваннем, з'ехала ў кювет і перакулілася. Пацярпелая атрымала нязначныя траўмы. Яе не шпіталізавалі, паведамілі ва УУС Мінаблвыканкама.

**Аддзел інфармацыі.**

## Пакурыў у ложку і паклаў недакурак на крэсла

ВІЛЕЙКА

Пажар здарыўся ў Вілейцы на завулку Стаўкі 22 снежня каля 15:00.

Гарэў жылы дом. Гаспадар выбег на вуліцу і пачаў клікаць на дапамогу. Яго сусед выклікаў выратавальнікаў.

– Пра пажар паведамілі хутка, таму дом атрымалася выратаваць, – распавёў «Рэгіянальнай газеце» інжынер інспекцыі нагляду і агітацыі Вілейскага РАНС **Аляксандр Казакевіч**.

Згарэлі ложак, пасцель, крэсла і частка падлогі. Папярэдняя прычына – неасцярожнасць пры курэнні.

Гаспадар пакурыў у ложку, паклаў недакурак у попельніцу, што стаяла побач на крэсле. Тое пачало тлець. Праз пэўны час гаспадар заўважыў задымленне, пабег на вуліцу і стаў клікаць на дапамогу.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Скралі бензапілу і гітару

ВАЛОЖЫН

Жыхар вёскі Пярэжары 2001 года нараджэння з хлява ў двары дачнага дома мінчука 1980 года нараджэння скраў бензапілу і гітару. Здарэнне адбылося 17 лістапада каля 3:00 у вёсцы Міхалова. Сума шкоды – чатырыста рублёў. Частку скрадзенага канфіскавалі.

Крымінальную справу ўзбудзілі 26 снежня па артыкуле «Крадзеж».

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

# А вы ведалі, што адбываецца ў Маладзечне раніцай першага студзеня?

МАЛАДЗЕЧНА

**1 студзеня 2019. Восем раніцы. Я выходжу з пад'езда, каб здзейсніць сваю даўнюю мару – зрабіць рэпартаж пра першую раніцу новага года.**

На вуліцы пуста і ціха. Толькі студзеньскі вецер пазвоньвае шклянымі цацкамі на ялінках у двarах. Вокны шматпавярховак цёмныя. Дзе-нідзе мільгаюць рознакаляровыя гірлянды. Машын амаль няма. Калі раз'язджаюць, то таксі. Яны ж запраўляюцца на АЗС.

### Сустрэча на ганку суседняга пад'езда

Ступаю па першым навагоднім снезе з невялікай надзеяй кагосьці сустрэць у гэты час, але… На ганку суседняга пад'езда мільгае агеньчык цыгарэты.

**Уладзімір**, так прадставіўся мой новы знаёмы, свята адзначаў з сям'ёй. Тэлевізар, аліўе, шампанскае. Усё ў класічных традыцыях. Але гэта не перашкодзіла майму субяседніку рана падняцца, каб выйсці на ганак пад'езда і пакурыць у першую раніцу года.

– Напэўна, вы адзін такі ранні? – пытаюся.

– Ды не, – адказвае мужчына. – Толькі што нейкія хлопцы па вуліцы хадзілі.

### Навагодняя прапанова

З хлопцамі сустракаюся ля суседняга дома. Яны весёлыя і гаваркія, хоць спаць яшчэ не клаліся. Усе чацвёра – маладзечанцы.

– Адзіны дзень такі ў годзе, то трэба святкаваць, – кажа адзін з іх, Міхаіл. – Хадземце з намі!

Адмаўляюся, кажу, што я на працы. А хлопцы ўсё націскаюць на кнопкі дамафона, гучна ўзрушаюцца, што ніхто не адчыняе. Потым заўважаюць, што пад'езд не той.

### Першыя аўтобусы на маршрут не выходзілі

У ранішнім аўтобусе-дзясятцы непамятлюдна. А калі дакладней, то я, кандуктар і кіроўца.

– Новы год адзначылі, але слаба. Раніцай жа на змену, – распавядае кандуктар **Ірына**, з цяжкасцю знаходзячы рэшту з маіх дзесяці рублёў. – Усе першыя рэйсы адмянілі. Ведалі, што не будзе людзей. Ды і цяпер іх яшчэ няма, хоць амаль дзевяць. Усе спяць, акрамя нас.

### Свята святам, але ранішні шпацыр з сабакамі абавязковы

На Вялікім Гасцінцы знаёмлюся з гаспадарамі, што выгульваюць гадаванцаў. **Лілія Львоўна** гуляе з Мушкай. Кажа, Новы год адзначалі з унучкай. Накрылі стол, сустрэлі свята, пасядзелі. Мушка ўсё палохалася грохату салютаў, хавалася то пад ложак, то пад канапу.

А раніцай штодзённы шпацыр з сабакам ніхто не адмяняў. Фатаграфавацца гаспадыня адмовілася. Сказала, не ў форме. Таму пазіравала толькі Мушка. Гаспадыня расказала, што яе гадаванка – вельмі ласкавая. Баіцца салютаў і іншых сабак. А вось з людзьмі сябруе. Любіць, калі яе гладзяць.

У першы ранак 2019 не спіць маладзечанец **Аляксандр**. Па Вялікім Гасцінцы ён шпацыруе з пекінэсам Прошкам. Новы год мужчына адзначаў з суседзямі. А гадаванец прывык гуляць заўсёды ў адзін час.


Аляксандр гуляў са сваім гадаванцам Прошкам.


Гаспадыня фатаграфавацца не захацела. Пазіравала толькі Мушка.



Кандуктар, кіроўца і я… Вось і ўся кампанія ў ранішнім аўтобусе.

### Дворнікі шчыравалі ад сямі гадзін

Пакуль дайшла да галоўнай святочнай плошчы – Цэнтральнай плошчы, – на вуліцы развіднела. Ля ёлкі шчыравалі работнікі ЖКГ з рыдлёўкамі ды мятлкамі і трактар. Да майго прыходу працавалі ўжо амаль дзве гадзіны. Прызналіся, што да ранніх пад'ёмаў і працы на халодным надвор'і ім не прывыкаць.

Яшчэ да паловы дзясятай з плошчы ўжо прыбралі святочнае смецце і металічныя агароджы. Як згадка пра свята засталіся толькі сцэна, упрыгожаная маленькімі ялінкамі, і агеньчыкі-гірлянды ля ўваходаў у крамы і іншыя ўстановы.


Звычайна людны Вялікі Гасцінец першага студзеня выглядаў так.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб'яву**

**МАЛАДЗЕЧНА** Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.**
**АСТРАВЕЦ** вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.**
**АШМЯНЫ** вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.**
**ВАЛОЖЫН** вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.**
**ВІЛЕЙКА** вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.**
**МЯДЗЕЛ** вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.**
**СМАРГОНЬ** вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **3-30-77.**

## ВІНШАВАНКА

**Дарагі Міхаіл Фёдаравіч з Маладзечна!**

**Ад усёй душы віншуем з днём нараджэння!**
Жадаем табе моцнага здароўя, аптымізму і ўдачы на доўгія-доўгія гады.
**З павагай, жонка Алена, дочкі, унукі і сваццця Тамара Мікалаеўна.**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Chrysler Neon, 1995 г.в., кожны дзень на хаду, ёсць нюансы, абмяняю на іншы а/м або прадам. 2 600 руб., торг. Т. (8-033) 3668181, (8-025) 7639296.*

• Нісан-Прымера, 1995 г.в., 2,0 дызель, па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*

• Рэно-Меган, 1998 г.в., па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 9928406.***

• Аўто, можна аварыйнае. Дорага. Т. (8-029) 5677052.*

### ІНШАЕ

• Антыкаразійны цэнтр DINITROL. Апрацоўка днішча, колавых арак, схаваных поласцяў. Гарантыя ад 3 да 7 гадоў. Дыягностыка кузава і кансультацыя – бясплатныя. Наяўны, безнаяўны разлік. Маладзечна, зав. Лазневы, 18 (раён школы №1). ІП Блоцкая В. М. УНП 691898138. Тэл. Вэлком 8 (029) 3239999, МТС (8-033) 3239999.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• Гараж з падвальнымі памяшканнямі ў ГБК № 22 г. Маладзечна. Т. (8-029) 1657582.

• Дом у а.г.Мацькаўцы Вілейскага р-на. Нядорага. Т. (8-029)6110737.*

## ПАСЛУГІ

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ



• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ** любой складанасці. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Рамонт і аддзелка кватэр, дамоў і нежылых памяшканняў. ІП Гарлукевіч П.П. УНП 692021956 Т. (8-029) 8771721.*

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне. Дыягностыка і выезд па горадзе бясплатныя. ІП Мандрык А.А. УНП 692018244. Т. (8-033) 6659479.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Мэбля**

• Секцыя «Вікторыя»; арэнбургская пуховая хустка, новая. Нядорага. Т. МТС (8-029) 5719435.*

**Іншае**

• Гной 60 кг, 2 руб. Т. (8-029) 5606607.*

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

• **НОЎТБУК**, ЖК-тэлевізар, ЖК-манітор, калонкі, узмацняльнікі, можна на запчасткі. Т. (8-029) 5613972.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Кабана, свінню. Т. (8-029) 5688765, (8-044) 5423601.*

• Кабана, свінню. Т. (8-033) 3401475.*

• Антыкварыят

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

### ІНШАЕ

• Ёсць прапіска. Т. (8-029) 5606607, (8-029) 3796140.*

## ПРАЦА

### ПАТРАБУЕЦЦА

• Вадзіцель катэгорыі D «Аўтобус» на заказ. Заработная плата годная. Мядзел. Т. (8-029) 6777092.

### ШУКАЮ РАБОТУ

• Зборка і ўстаноўка мэблі. Т. (8-029) 7040346.*

• Шукаю падпрацоўку. Досвед: усе віды будаўнічых, аддзелачных работ; малярныя работы, работы з гіпсакардонам, тынкоўка, ламінат, вагонка, сайдынг, афарбоўка і г.д. Т. Вэлком (8-029) 5526667.*

# Ад 25 снежня забаранілі лавіць ментуза

**Мядзельская міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і раслiннага свету нагадвае, што ад 25 снежня дзейнічае забарона на лоўлю ментуза звычайнага. Забарона працягнецца да 28 лютага 2019 года.**

У гэты час мянтуз ідзе на нераст. Яго здабыча ў перыяд забароны лоўлі, у залежнасці ад памеру нанесенай шкоды навакольнаму асяроддзю, можа паслужыць падставай для прыцягнення да адміністрацыйнай альбо крымінальнай адказнасці.

Акрамя таго, парушальніку давядзецца пакрыць прычыненую навакольнаму асяроддзю шкоду. За кожнага незаконна здабытага ў перыяд забароны ментуза звычайнага прыйдзецца выплаціць 27 базавых велічынь (661,5 рубля) у якасці кампенсацыі нанесенай прыродзе шкоды.


Фота katyaburg.ru.

За адну такую рыбіну парушальнік заплаціць амаль семсот рублёў.

Мядзельская міжраённая інспекцыя сумесна з іншымі прыродаахоўнымі і праваахоўнымі органамі пастаянна праводзіць мерапрыемствы па выяўленні браканьерства. Але толькі сумеснымі намаганнямі можна павялічыць рыбныя запасы ў нашых рэках і азёрах.

Калі вам стала вядома пра факты парушэння прыроднага заканадаўства, то тэлефануйце на нумар (8-01797) 50-7-40 альбо на «тэлефон даверу» Дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь – (8-017) 39 00000, або на тэлефон 102.

Усю атрыманую інфармацыю абавязкова праверацъ.

**Раман ЛЕСІН,**
**Мядзельская міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і раслiннага свету.**

## У бальніцы з'явіўся перасоўны ФАП

**МЯДЗЕЛ**

Ён патрэбны для паляпшэння даступнасці медыцынскай дапамогі.

У мабільнай медустанове ёсць тры кабінеты: першы з крэсламі – для наведнікаў, другі – кабінет фельчара, за ім – сумешчаны акушэрска-гінекалагічны і працэдурны.

Такі ФАП запатрабаваны ў сельскіх жыхароў. Каб зрабіць кардыяграму або здаць аналізы, ім не трэба дабірацца да стацыянарных ФАПаў, паведамляюць у Мядзельскім райвыканкаме.

**Аддзел інфармацыі.**

## Ля вілейскага каледжа паставілі Азярніцу

Новую міфічную істоту днямі ўсталявалі на пляцоўцы побач з Рыбіным царом і Вужыным князем.

– У рыбакоў ёсць Рыбін цар, у грыбнікоў – Вужыны князь. У Віліі ёсць Вілляна, а цяпер у яе з'явілася сястра Азярніца, дзяўчына з нашага вілейскага мора – вадасховішча, – кажа дырэктар Вілейскага дзяржаўнага каледжа **Ігар Кіцікаў**. – Возера Чорнае, дзе, паводле міфалогіі, жывуць гэтыя істоты, знаходзіцца ў басейне Віліі. Таму можна лічыць, што азярніцы размножыліся і адна з іх трапіла да нас.

Чарговую ідэю Ігара Кіцікава ўвасобіў вілейскі скульптар **Валеры Апарык.**

**Аксана ЯРАШОНАК.**


Фота забяспечанае Ігарам КІЦІКАВЫМ.

Валеры Апарык і Ігар Кіцікаў устанаўліваюць Азярніцу на тэрыторыі каледжа.

## Што трэба ведаць пра абмаражэнні падчас вытворчасці

Выпадкі абмаражэння падчас вытворчых работ досыць рэдкія і звычайна звязаныя з ужываннем вуглекіслотных вогнетушыцеляў або з працай у зімовы час пры кантакце з халодным металам без ахоўных сродкаў, напрыклад, без рукавіц.

Здараюцца выпадкі абмаражэння, калі аварыйным брыгадам газавай службы даводзіцца працаваць са струменем газу, які выходзіць у атмасферу з пашкоджанага ўчастка газаправода.

Пры абмаражэнні неабходна расцерці патрэбны ўчастак цела, сагрэцца ў цёплым памяшканні. Калі абмарожаныя рукі, ногі, лепш за ўсё змясціць іх у таз або вядро з вадой нармальнай тэмпературы, 20-25 градусаў, з паступовым яе павелічэннем да 37-40 градусаў.

Калі на месцы абмаражэння з'явіцца азызласць або пульхіры, яго трэба прамыць цёплай вадой, працерці спіртам або адэкалонам і накласці стэрыльную павязку.

Нельга думаць, быццам для абмаражэння патрэбныя вельмі нізкія тэмпературы. Нават +10° пры пэўным збегу акалічнасцяў бывае дастаткова, каб атрымаць яго.

Таму папярэджваем работнікаў, якія грэбуюць сродкамі засцярогі, а таксама кіраўнікоў аб неабходнасці самых строгіх мер па захаванні тэхнікі бяспекі, каб атрыманыя веды па аказанні першай дапамогі даводзілася ўжываць як мага радзей.

**Таццяна ШАМШУРА,**
**Дэпартамент па наглядзе за бяспечным вядзеннем работ у прамысловасці МНС Рэспублікі Беларусь.**

# Чаму ў Германіі ахвотна займаюцца валанцёрствам

**Валанцёрства – гэта праца, якую выконваюць добраахвотна. Звычайна яна звязаная з сацыяльнай ці іншай дапамогай, але можна знайсці магчымасць папрацаваць у вельмі розных накірунках.**



Фота Deutschland.de.

У якасці валанцёра можна, напрыклад, працаваць з дзецьмі ў дзіцячым садку ці школе.

Умовы працы таксама розныя. Дамоўлены перыяд можа займаць год ці некалькі тыдняў. У некаторых выпадках працадаўца аплачвае жыллё і харчаванне, часам можа быць прадугледжаная грашовая ўзнагарода. Графік валанцёрскай працы таксама можа быць як поўны працоўны дзень, так і некалькі гадзін на тыдзень.

Магчымасцяў асабліва шмат для маладых людзей. Стаць удзельнікам валанцёрскай праграмы ў Германіі, як і ў многіх іншых краінах, могуць замежнікі, у тым ліку і беларусы.

> **Без ведання мовы краіны, у якой вы хацелі б удзельнічаць праграме, атрымаць такую магчымасць нашмат цяжэй. Аднак калі вы крыху ведаеце, напрыклад, нямецкую мову, то можаце абраць такую праграму, дзе прадугледжаная магчымасць хадзіць на моўныя курсы.**

Многія праграмы прадугледжаныя адмыслова для моладзі. Канешне, паўдзельнічаць у валанцёрскім эксперыменце за мяжой нашмат прасцей у 20-25 год, аднак і для сталых людзей заўсёды ёсць варыянты.

### Федэральная добраахвотная служба

Гэта служба ахвотна запрашае валанцёраў з іншых краін. Для жыхароў Беларусі патрэбная віза з запрашэннем на працу. У гэтай праграме няма абмежаванняў па ўзросце. Служба мае біржу месцаў, па якой зручна шукаць, якія ёсць актуальныя прапановы. Вы выбіраеце ўстанову, што зацікавіла вас, і падаяце заяўку.

Выпускнікі школ да 27 год могуць паўдзельнічаць у гадавой праграме. На захадзе папулярная практыка Добраахвотнага сацыяльнага года, калі адразу пасля школы выпускнікі не ідуць паступаць у спецыялізаваную навучальную ўстанову. Яны бяруць год на сацыяльную працу. Яна можа быць блізкай да той, якой хочуць зрабіць будучай прафесіяй. Так малады чалавек правярае свой выбар, спрабуе, ці сапраўды гэта тое, чым хоча займацца ўсё жыццё.

> **А можа зусім не быць звязаным з тым, куды думае паступаць. Так юнак ці дзяўчына бяруць час на тое, каб павандраваць, набрацца жыццёвага досведу, змяніць абстаноўку, пачуць свае патрэбы і знайсці адказы на хвалюючыя пытанні ў спакойным рытме.**

У межах такога года маладыя людзі дапамагаюць у дзіцячых садках, культурных установах, спартыўных саюзах, бальніцах, дамах для састарэлых людзей. Можна паўдзельнічаць у праграмах падрыхтоўкі для сацыяльных работнікаў.

### Добраахвотны год экалогіі

Калі вас хвалююць праблемы Сусветнага акіяна, чысціні і пластыкавых пакетаў, вы можаце стаць удзельнікам праграмы Добраахвотны год экалогіі.

> **Праграма разлічаная на тых, каму цікавая прырода, ахова навакольнага асяроддзя, сельская гаспадарка.**

### Еўрапейская добраахвотная служба

Еўракамісія падтрымлівае службы агульнакарысных накірункаў у розных краінах Еўропы. Да ўдзелу запрашаюць маладых людзей 17-30 год з Еўрасаюза і краін-партнёраў праграмы Erasmus.

Беларусь удзельнічае ў гэтай праграме, а ў Мінску ёсць офіс прадстаўніцтва. Праграма працуе ад 2014 да 2020 года.

> **Адна з асноўных мэтаў праграмы – культурнае аб'яднанне еўрапейскіх народаў, дапамога ў пазнанні іншых краін, паляпшэнне моўнага ўзроўню, інтэграцыя ўніверсітэтаў, стварэнне больш адкрытага рабочага рынку.**

Для многіх студэнтаў Erasmus – цалкам рэальная і зразумелая магчымасць пажыць і павучыцца ў іншай краіне, атрымаць каштоўны культурны і жыццёвы досвед. А сувязі з прадстаўнікамі розных краін, атрыманыя падчас удзелу, застаюцца бясцэннымі на ўсё жыццё.

### «Вельтвертс» («Па ўсім свеце»)

Гэта добраахвотная служба палітыкі ў сферы развіцця.

Маладыя людзі 18-28 год з Усходняй Еўропы, Афрыкі, Азіі і Лацінскай Амерыкі могуць прымаць удзел у праектах, якія рэалізуюць у Германіі.

### Акцыя «Знак пакаяння»

Гэта адна з найбуйнейшых добраахвотных арганізацый у Германіі.

Пераважна арганізацыя супрацоўнічае з тымі краінамі, што пацярпелі ад нацыянал-сацыялістычнага тэрора. Ёсць службы прымірэння і ў Германіі.

Мэта праграмы – знайсці паразуменне паміж культурамі і рэлігіямі.

### Крос-культурная праграма

Інстытут міжнародных стасункаў дазваляе маладым людзям, якія працуюць, прайсці стажыроўку ў сферах «палітыка і грамадства», «мір і правы чалавека», «СМІ і культура».

Максімальна практыкавацца можна тры месяцы. Удзельнічаць можна да 45 год.

### Чаму валанцёрства папулярнае

Добраахвотная праца ў Германіі – папулярны занятак. Многія ў свабодны час займаюцца дапамогай, спраўляй, якая блізкая да сэрца, за простае «дзякуй».

Пашырэнню валанцёрства ў свой час пасадзейнічаў закон.

Мужчыны маглі выбраць адзін з трох спосабаў аддаць доўг радзіме: служыць у арміі, абраць грамадзянскую службу ці займацца валанцёрствам.

> **Так малады чалавек мог займацца звычайнай працай, а ў пэўны час выконваць добраахвотную работу. У залік ішлі толькі тыя гадзіны, якія ён правёў як валанцёр, і служба магла доўжыцца гадамі.**

Цяпер для немцаў няма абавязковага воінскага абавязку. Але папулярнасць валанцёрства засталася. Гэта стыль жыцця многіх жыхароў Германіі, якія лічаць, што важна клапаціцца не толькі пра сябе, але і пра тых, каму неабходная дапамога.

**Паводле deutschland.de, erasmus-plus.belarus. unibel.by.**

● ЗОРКА ТЭЛЕТЫДНЯ

# Дзмітры Ягораў



Фота са старонкі Дзмітрыя Ягорава УКантакце.

Малады беларускі акцёр тэатра і кіно. Нарадзіўся 11 мая 1993 года. Вядомы па фільмах «Маці за сына», «Дзяржаўная граніца», «Расплата за шчасце», «Мухтар. Новы след», «Пах лаванды», інш.

У школьныя гады займаўся ў музычнай школе па класе трамбона. Таксама асвоіў гітару. Браў урокі вакалу і займаўся танцамі. Захапляўся спортам, займаўся плаваннем, футболам, тайскім боксам.

У 2014 годзе скончыў Беларускую дзяржаўную акадэмію мастацтваў. Ад 2015 года – акцёр Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача.

У кіно здымаецца ад 2014 года, дэбютаваўшы ў карцінах «Цені мунлага» і «Дзяржаўная граніца». Далей зняўся ў ролях другога плана ў стужках «На далёкай заставе», «Адплата за шчасце», «Мухтар. Новы след», «Пах лаванды», «Арэлі» і інш.

У 2017-м выканаў галоўную ролю ў меладраме «Маці за сына» рэжысёра Пятра Сцёпіна. Па сюжэце карціны Ірына (Дар'я Паверанава) усё жыццё прысвяціла сыну Кірылу (яго іграе Дзмітры Ягораў). З-за яго яна нават адкладае вяселле з каханым мужчынам. Кірыл тым часам марнуе жыццё са сваімі сябрамі-мажорамі.

У адзін з дзён яны п'янымі садзяцца за руль і збіваюць на пераходзе дзяўчыну. І хоць за рулём сядзеў Андрэй, сын суддзі, каб пазбегнуць пакарання, сябры абвінавачваюць у аварыі Кірыла. Кірыл штодзень наведвае Алену, якая пасля аварыі стала інвалідам. Паміж імі ўзнікае сімпатыя. Але намаганнямі суддзі становішча Кірыла становіцца безнадзейным. Ніводны адвакат не хоча брацца за яго справу. Да таго ж сведкі, ды і сама Алёна, у адзін голас сцвярджаюць, што вінаваты Кірыл…

Усяго ў Ягорава 13 работ у 13 праектах.





## 8 канал

ВОСЬМОЙ

**ПОНЕДЕЛЬНИК, 7 ЯНВАРЯ**

**7.00, 19.10, 21.05, 0.30** «Погода».
**7.05** «Мульт-парад».
**7.15, 16.00** «Юморинка».
**7.20** Т/с **«ДВА С ПОЛОВИНОЙ ЧЕЛОВЕКА».**
**8.20** Х/ф **«ГОД ЗОЛОТОЙ РЫБКИ».**
**10.05** Мультфильмы «Ночь перед Рождеством».
**10.50, 19.15** Т/с **«ДВОРЦОВЫЕ ТАЙНЫ».**
**12.10** Х/ф **«ГУСАРСКАЯ БАЛЛАДА».**
**13.50** Т/с **«БЕЗРАССУДНО ВЛЮБЛЕННЫЕ».**
**16.05** «Мульт-парад». «Мышиный переполох».
**16.45** Т/с **«ПРОЖИТЬ ЖИЗНЬ».**
**18.20** Т/с **«КАСЛ».**
**20.50** «Вечарнiца».
**21.10** Мини-сериал «Титаник».

**ВТОРНИК, 8 ЯНВАРЯ**

**7.00, 15.55, 19.15, 21.10** «Погода».
**7.05** «Мульт-парад».
**7.25, 16.00** «Юморинка».
**7.30** Т/с **«ДВА С ПОЛОВИНОЙ ЧЕЛОВЕКА».**
**8.30, 16.45** Т/с **«ПРОЖИТЬ ЖИЗНЬ».**
**10.00** Мой любимый питомец.
**10.30, 18.20** Т/с **«КАСЛ».**
**11.15, 19.20** Т/с **«ДВОРЦОВЫЕ ТАЙНЫ».**
**12.45** Х/ф **«СТАНЦИОННАЙ СМОТРИТЕЛЬ».**
**13.50** Т/с **«БЕЗРАССУДНО ВЛЮБЛЕННЫЕ».**
**16.05** «Мульт-парад». «Чиполлино».
**20.50** «Вечарнiца».
**21.15** Х/ф **«ВА-БАНК».**
**23.05** Х/ф **«ОТВЕТНЫЙ УДАР».**

**СРЕДА, 9 ЯНВАРЯ**

**7.00, 19.20, 21.05, 0.45** «Погода».
**7.05** Мульт-сериал.
**7.25, 16.00** «Юморинка».
**7.30** Т/с **«ДАЛЬНОБОЙЩИКИ».**
**8.20, 17.00** Т/с **«ПРОЖИТЬ ЖИЗНЬ».**
**10.00** «Рисуя Китай».
**10.30, 18.35** Т/с **«КАСЛ».**
**11.15, 19.25** Т/с **«ДВОРЦОВЫЕ ТАЙНЫ».**
**12.35** Х/ф **«БЕЛОЕ СОЛНЦЕ ПУСТЫНИ».**
**13.50** Т/с **«БЕЗРАССУДНО ВЛЮБЛЕННЫЕ».**
**16.05** «Мульт-парад».
**20.50** «Вечарнiца».
**21.10** Х/ф **«МИСТЕР И МИССИС СМИТ».**
**23.10** Х/ф **«АРАХНИД».**

**ЧЕТВЕРГ, 10 ЯНВАРЯ**

**7.00, 19.00, 21.05, 1.05 1.10** «Погода».
**7.05** Мульт-сериал.
**7.25, 16.00** «Юморинка».
**7.30** Т/с **«ДАЛЬНОБОЙЩИКИ».**
**8.30, 17.00** Т/с **«ПРОЖИТЬ ЖИЗНЬ».**
**10.00** Сад и огород.
**10.20, 18.00** Т/с **«КАСЛ».**
**11.05, 19.05** Т/с **«ДВОРЦОВЫЕ ТАЙНЫ».**
**12.25** Х/ф **«КАВКАЗСКАЯ ПЛЕННИЦА».**
**13.50** Т/с **«БЕЗРАССУДНО ВЛЮБЛЕННЫЕ».**
**16.05** «Мульт-парад».
**16.30** «Мой любимый питомец».
**18.50** «Фешн is my профешн».
**20.55** «Вечарнiца».
**21.10** Х/ф **«ТОТ САМЫЙ МЮНХГАУЗЕН».**
**23.30** Х/ф **«ФОРМУЛА ЛЮБВИ».**

**ПЯТНИЦА, 11 ЯНВАРЯ**

**7.00, 18.55, 21.10, 1.30 1.35** «Погода».
**7.05** Мульт-сериал.
**7.25, 15.40** «Юморинка».
**7.30** Т/с **«ДАЛЬНОБОЙЩИКИ».**
**9.15, 16.00** Т/с **«ПРОЖИТЬ ЖИЗНЬ».**
**10.00** «Рисуя Китай».
**10.30, 17.40** Т/с **«КАСЛ».**
**11.15, 19.00** Т/с **«ДВОРЦОВЫЕ ТАЙНЫ».**
**13.30** Т/с **«БЕЗРАССУДНО ВЛЮБЛЕННЫЕ».**
**15.45** «Мульт-парад».
**18.25** «Мой любимый питомец».
**21.00** «Вечарнiца».
**21.15** Х/ф **«СИЛЬВЕРАДО».**
**23.30** Х/ф **«ЖИВЕШЬ ТОЛЬКО ДВАЖДЫ».**

**СУББОТА, 12 ЯНВАРЯ**

**7.00, 19.00, 21.15** «Погода».
**7.05** Мультфильмы «Барашек Шон».
**7.15** Д/с «Малыши».
**8.00** Мультфильмы «Альберт».
**9.25** «Утрямдия».
**9.30** Искусство-кино. «Пигмалион» (Великобритания, 1938 г.).
**11.00** Х/ф **«БЕЛЫЙ ПЛЕН».**
**13.05** Х/ф **«ТОЛЬКО ДЛЯ ГЛАЗ ТВОИХ».**
**15.15** «Отвечайка».
**15.20** Мультфильмы «Смотрим всей семьей».
**17.05** Х/ф **«ЛЮДИ В ЧЕРНОМ».**
**18.45** «Друзья дедушки Марко».
**19.05** Х/ф **«ЧЕГО ХОЧЕТ ДЕВУШКА».**
**20.50** «Вечарнiца».
**21.05** «Фешн is my профешн».
**21.20** Х/ф **«ЕШЬ, МОЛИСЬ, ЛЮБИ».**
**23.40** Х/ф **«ЛЮДИ В ЧЕРНОМ-2».**

**ВОСКРЕСЕНЬЕ, 13 ЯНВАРЯ**

**7.00, 15.50, 18.55, 21.05** «Погода».
**7.05** Мультфильмы «Барашек Шон».
**7.15** Д/с «Малыши».
**8.00** Мультфильмы «Холодное сердце».
**9.25** «Утрямдия».
**9.30** «Мой любимый питомец».
**10.00, 12.15** Х/ф **«НАЗАД В БУДУЩЕЕ».**
**11.50** «Рисуя Китай».
**15.55** «Смотрим всей семьей». «Ловушка для привидения».
**17.40** «Отвечайка».
**17.45** «Друзья дедушки Марко».
**18.00** Т/с **«ОНА НАПИСАЛА УБИЙСТВО».**
**19.00** Х/ф **«ЧТОБЫ ВЕРНУТЬСЯ».**
**20.50** «Вечарнiца».
**21.10** Х/ф **«АРМАГЕДДОН».**
**23.45** Х/ф **«ЗМЕИНЫЙ ОСТРОВ».**

## МКТВ

**ПОНЕДЕЛЬНИК, 7 ЯНВАРЯ**

**6.35** Х/ф **«ЖИВОТНОЕ».**
**8.05** Х/ф **«БАРХАТНЫЕ РУЧКИ».**
**10.05** Х/ф **«БЕЗУМНО ВЛЮБЛЕННЫЙ».**
**12.05** Х/ф **«ЕЛКИ НОВЫЕ».**
**13.45** Х/ф **«СЕМЕЙНОЕ ОГРАБЛЕНИЕ».**
**15.25** Х/ф **«КИЛЛЕРЫ».**
**17.20, 22.30** Новогодний серпантин.
**18.30, 19.30** Свет души.
**18.50, 19.50** Афиша.
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**20.20** Х/ф **«КАНИКУЛЫ МЕЧТЫ».**
**22.50** Мажорный лад.

**ВТОРНИК, 8 ЯНВАРЯ**

**6.20, 7.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**8.30, 18.40, 21.50** Афиша.
**10.20, 19.20** Х/ф **«БЕЗ ЧУВСТВ».**
**11.55** Х/ф **«САМЫЙ ЛУЧШИЙ ДЕНЬ».**
**14.00** Х/ф **«ПАПАШИ БЕЗ ВРЕДНЫХ ПРИВЫЧЕК».**
**16.00** Х/ф **«ПЛОХОЙ САНТА».**
**17.45, 20.30, 22.20** Мажорный лад.

**СРЕДА, 9 ЯНВАРЯ**

**6.20, 7.20, 8.20** Песня на завтрак.
**6.40, 7.40, 18.40, 21.40** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**10.00** Х/ф **«ЖИВОТНОЕ».**
**11.35** Х/ф **«КРУТАЯ ДЖОРДЖИЯ».**
**13.45** Х/ф **«ДЕТОРОДНЫЕ».**
**15.40** Х/ф **«ТОЛСТЯК НА РИНГЕ».**
**17.45, 19.15, 22.20** Мажорный лад.
**20.30** Музыкальная открытка.

**ЧЕТВЕРГ, 10 ЯНВАРЯ**

**5.20, 7.20, 8.15** Песня на завтрак.
**6.40, 7.40, 18.40, 19.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**9.00** Х/ф **«ЭЙС ВЕНТУРА: РОЗЫСК ДОМАШНИХ ЖИВОТНЫХ».**
**10.40** Х/ф **«ЭЙС ВЕНТУРА 2: КОГДА ЗОВЕТ ПРИРОДА».**
**12.25** Х/ф **«ПОМОГИТЕ СТАТЬ ОТЦОМ».**
**15.50, 20.20, 22.20** Мажорный лад.
**19.20** Каникулы мечты.

**ПЯТНИЦА, 11 ЯНВАРЯ**

**5.35, 7.20, 8.20** Песня на завтрак.
**6.40, 7.40, 19.50, 21.40** Афиша.
**7.00, 8.00** Новости: время местное.
**9.00** Х/ф **«ОЧЕНЬ СТРАШНОЕ КИНО 2».**
**10.35** Х/ф **«ОЧЕНЬ СТРАШЕОН КИНО 3».**
**12.05** Х/ф **«ЭЙС ВЕНТУРА: РОЗЫСК ДОМАШНИХ ЖИВОТНЫХ».**
**13.45** Х/ф **«ЭЙС ВЕНТУРА 2: КОГДА ЗОВЕТ ПРИРОДА».**
**15.30** Без чувств.
**17.25, 19.25, 22.30** Мажорный лад.
**19.00, 20.00, 22.00** Время местное. Итоги.
**20.30** Музыкальная открытка.

**СУББОТА, 12 ЯНВАРЯ**

**6.20, 7.30** Песня на завтрак.
**6.45, 8.30, 17.15, 18.40, 19.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Время местное. Итоги.
**10.15** Х/ф **«КАНИКУЛЫ МЕЧТЫ».**
**12.35, 22.30** Мажорный лад.
**17.45** Свет души.
**18.00** Новости БЖД.
**18.20, 19.25** Новогодний серпантин!
**20.30** Желаем вам.
**21.00** С новым годом, Молодечно!

**ВОСКРЕСЕНЬЕ, 13 ЯНВАРЯ**

**5.55** Х/ф **«ЛЮБОВЬ С ПРЕПЯТСТВИЯМИ».**
**8.05** Х/ф **«СВИДАНИЕ ВСЛЕПУЮ».**
**9.55** Х/ф **«БЕЗ ЧУВСТВ».**
**11.45** Х/ф **«СУПЕРСТЮАРД».**
**13.45** Х/ф **«ДНЕВНИК КАРЬЕРИСТКИ».**
**17.15** Х/ф **«ПРАЗДНИЧНЫЙ ПЕРЕПОЛОХ».**
**19.30** Х/ф **«ОГНИ БОЛЬШОЙ ДЕРЕВНИ».**
**21.00** Х/ф **«ПАРЕНЬ С НАШЕГО КЛАДБИЩА».**
**22.40** Х/ф **«ГУДЗОНСКИЙ ЯСТРЕБ».**

## Беларусь 1

**6.25, 12.35, 15.30** Т/с **«СВАТЫ 3».**
**7.20** Х/ф **«ДОМ НА ХОЛОДНОМ КЛЮЧЕ».**
**9.00, 12.00, 15.00** Новости.
**9.10** «Арсенал». Программа об армии.
**9.40** «Территория безопасности» Хроникально-документальный телефильм. 3 и 4 с.
**10.45** Маршрут построен. Полоцк.
**11.15** Вокруг планеты.
**12.10** Новости. Центральный регион.
**13.30** «Я знаю». Шоу-викторина для всей семьи.
**15.15** Твой город.
**16.35** Х/ф **«НОВОГОДНИЙ ПЕРЕПОЛОХ».**
**20.35** Навіны надвор'я.
**21.00** Главный эфир.
**22.10** Х/ф **«БАБЬЕ ЦАРСТВО».**

## Беларусь 2

**7.00** М/с «Джинглики».
**7.15** Х/ф **«ВОЛШЕБНИК ИЗУМРУДНОГО ГОРОДА».**
**8.20, 19.55** Телебарометр.
**8.25** Т/с **«ЧИП И ДЕЙЛ СПЕШАТ НА ПОМОЩЬ».**
**9.10** «ЖаннаПожени». Реалити-шоу.
**11.00** Х/ф **«ПРИНЦ ПЕРСИИ: ПЕСКИ ВРЕМЕНИ».**
**12.55** Х/ф **«ТРАНСФОРМЕРЫ».**
**15.15** «Свадебный размер». Реалити-шоу.
**16.20** Биатлон. Этап Кубка мира. Эстафета. Мужчины.
**17.45** «Битва экстрасенсов. 18-й сезон». Реалити-шоу.
**20.25** «Папа попал». Реалити-шоу.
**22.00** КЕНО.
**22.05** «Третий лишний». Реалити-шоу.
**23.10** «Сыграй меня, если сможешь».
**23.40** «Орел и Решка. Кругосветка». Трэвел-шоу.

## Беларусь 3

**7.35** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.
**8.00, 15.35, 20.15** Навіны культуры.
**8.20, 15.55, 20.30** Гэты дзень.
**8.25** Мультфільм.
**8.30** «Выйсці замуж за капітана». Мастацкі фільм.
**10.00** «Наперад у мінулае».
**10.30** «Беларуская кухня». Кулеш; дубровенская вежка.
**10.55** «Нацыянальны хіт-парад».
**11.50** «Вяртанне «Святога Лукі». Мастацкі фільм.
**13.25** «Майстры і куміры». Народная артыстка Беларусі Бэла Масумян.
**14.20** Канцэрт ВІА «Синяя птица».
**16.00** «Непапраўны ілгун». Мастацкі фільм.
**17.15** «Не, я не шкадую ні аб чым». Дакументальны фільм да 85-годдзя заслужанай артысткі БССР Людмілы Цімафеевай.
**17.40** «Дзяржаўная граніца». Фільм першы «Мы наш, мы новы…».
**20.00** «Архітэктура Беларусі».
**20.40** «Калыханка».
**21.05** «Безыменная зорка». Мастацкі фільм.
**23.20** Канцэрт ВІА «Поющие гитары».

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00** Наши новости.
**7.10** Х/ф **«ЗИГЗАГ УДАЧИ».**
**8.50** Новогодний «Ералаш».
**9.10** «Воскресная проповедь».
**9.25** ОНТ представляет: «Метеогид».
**9.45** «Здоровье».
**10.55** «Савелий Крамаров. Джентльмены удачи. Смешной до слез».
**12.00** Х/ф **«БЕЛАЯ НОЧЬ, НЕЖНАЯ НОЧЬ…».**
**14.10** ОНТ представляет: Торжественная церемония награждения премии «Народная марка».
**16.20** «Главный новогодний концерт».
**18.15** «Лучше всех!» Новогодний выпуск.
**20.00** Контуры.
**21.05** ОНТ представляет: «Профессиональная среда».
**21.25** Старый Новый год.

## СТВ

**6.05** «Пища богов».
**8.15** Документальный спецпроект.
**10.00** СТВ представляет: «Деревня Live».
**10.45** «Центральный регион».
**11.15** «Дорогая передача».
**11.35, 13.40** Т/с **«СЛЕДЫ АПОСТОЛОВ».**
**13.30, 16.30** Новости «24 часа».
**15.40** СТВ представляет: «Наш 2018-й».
**16.40** Х/ф **«ЧЕЛОВЕК С БУЛЬВАРА КАПУЦИНОВ».**
**18.30, 20.35** Документальный проект.
**19.30** «Неделя».
**22.15** «Неделя спорта».
**22.45** «Неголубой огонек».
**1.15** Легенды Ретро FM.

## Мир

**6.00, 6.30, 7.30, 8.35** Мультфильмы.
**6.15** «Миллион вопросов о природе».
**7.00** «Беларусь сегодня».
**8.05** «Культ/туризм».
**9.25** «Наше кино. История большой любви».
**10.00, 16.00** Новости.
**10.15** «Еще дешевле».
**10.45, 16.15** Т/с **«БОЛЬШАЯ ПЕРЕМЕНА».**
**17.00, 19.30** Настоящий Новый год!
**18.30, 0.00** Итоговая программа «Вместе».
**20.05** Х/ф **«ЗИМНИЙ СОН».**
**22.10, 1.00** Т/с **«НЕПРИДУМАННАЯ ЖИЗНЬ».**



## НТВ-Беларусь

**5.55** «Астропрогноз».
**6.00** Terra incognita. Беларусь неизвестная.
**6.30** «Понять и обезвредить». Авторский проект Елены Домиевой.
**7.00** Т/с **«АГЕНТ ОСОБОГО НАЗНАЧЕНИЯ».**
**8.00, 10.00, 16.00, 19.00** «Сегодня».
**8.20** Женщины и спорт.
**8.50** «Устами младенца».
**9.30** «Истории ремонта».
**10.25** «Первая передача».
**10.55** «Чудо техники».
**11.45** «Дачный ответ».
**12.45** «НашПотребНадзор».
**13.35** «Поедем, поедим!».
**14.15** Х/ф **«ВЕТЕР СЕВЕРНЫЙ».**
**16.25** «Следствие вели…».
**17.15** Х/ф **«Я ЛЮБЛЮ СВОЕГО МУЖА».**
**19.30** Т/с **«ПАУТИНА».**
**22.50** «Юбилейный вечер Михаила Гуцериева».

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.00** Х/ф **«ПРИНЦЕССА С СЕВЕРА».**
**10.30** «Смехопанорама».
**11.00** ВЕСТИ.
**11.20** «Сам себе режиссер».
**12.05** «Утренняя почта».
**12.40** «Когда все дома с Тимуром Кизяковым».
**13.30** Х/ф **«СОСЕДИ ПО РАЗВОДУ».**
**15.10, 21.45** Т/с **«ЛЮБОВНАЯ СЕТЬ».**
**20.00** ВЕСТИ НЕДЕЛИ.
**23.30** МОСКВА. КРЕМЛЬ. ПУТИН.
**0.20** «Воскресный вечер с Владимиром Соловьевым».

# кіно і спорт

### TV1000

**6.10, 18.00** Машина времени. **8.15** Эрин Брокович – красивая и решительная. **10.55** Миллионер из трущоб. **13.25** Присяжная. **15.55** Мошенники. **20.10** Очень опасная штучка. **22.20** Александр. **1.35** Осторожно, двери закрываются! **3.45** Прости, хочу на тебе жениться.

### TV1000 ACTION

**7.35** Ю-571. **9.55** Безбашенные. **12.05** Забирая жизни. **14.15** Запрещённый приём. **16.30** Паркер. **18.55** Скотт Пилигрим против всех. **21.10** Ограбление казино. **23.10** Окулус. **1.10** Короли Догтауна. **3.00** Невидимка. **5.10** Чистильщик.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**6.20** Загадай желание. **8.05** Кухня в Париже. **10.10** ПираМММида. **12.20** Старое доброе кино: Жизнь и удивительные приключения Робинзона Крузо. **14.15** Любовь-морковь. **16.25, 2.25** Любовь-морковь 2. **18.25** Любовь-морковь 3. **20.20** Кухня. Последняя битва. **22.30** Статус: свободен. **0.30** Хардкор. **4.05** Царь.

### ТВ3

**6.00** Мультфильмы. **10.00, 10.45, 11.45, 12.30, 13.30** Т/с **«ЭЛЕМЕНТАРНО». 14.15** Х/ф **«НАПРОЛОМ». 16.30** Х/ф **«ДВОЙНОЙ КОПЕЦ». 18.45** Х/ф **«НАЦИОНАЛЬНАЯ БЕЗОПАСНОСТЬ». 20.30** Х/ф **«ЖИВОТНОЕ». 22.00** Х/ф **«ЗУБНАЯ ФЕЯ». 0.00** «Лучшие песни нашего кино».

### ФЕНИКС

**8.00, 16.00** Т/с **«ЯЛТА 45». 9.00, 10.00, 17.00, 18.00, 1.00, 2.00** Т/с **«ШИРОКА РЕКА». 11.00, 12.00, 19.00, 20.00, 3.00, 4.00** Т/с **«ТАТЬЯНИН ДЕНЬ». 13.00, 21.00, 5.00** Т/с **«НОЧНЫЕ ЛАСТОЧКИ». 14.00, 22.00** Т/с **«ВИОЛА ТАРАКАНОВА. В МИРЕ ПРЕСТУПНЫХ СТРАСТЕЙ 2. Фильм 6». 15.00, 23.00** Т/с **«ВЛЮБЛЕННЫЕ ЖЕНЩИНЫ». 0.00** Т/с **«БЕЗ ПРАВА НА ОШИБКУ». 6.00** Т/с **«ВИОЛА ТАРАКАНОВА. В МИРЕ ПРЕСТУПНЫХ СТРАСТЕЙ 3. Фильм 7». 7.00** Т/с **«ЗА ВСЕ ТЕБЯ БЛАГОДАРЮ».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**1.10** Х/ф **«ОЧЕНЬ СТРАШНОЕ КИНО». 2.55** Х/ф **«ОЧЕНЬ СТРАШНОЕ КИНО 2». 4.25** Х/ф **«ОЧЕНЬ СТРАШНОЕ КИНО 3». 5.55** Х/ф **«ЛЮБОВЬ С ПРЕПЯТСТВИЯМИ». 8.05** Х/ф **«СВИДАНИЕ ВСЛЕПУЮ». 9.55** Х/ф **«БЕЗ ЧУВСТВ». 11.45** Х/ф **«СУПЕРСТЮАРД». 13.45** Х/ф **«ДНЕВНИК КАРЬЕРИСТКИ». 15.30** Х/ф **«УБЕЙ МЕНЯ ТРИЖДЫ». 17.15** Х/ф **«ПРАЗДНИЧНЫЙ ПЕРЕПОЛОХ». 19.30** Х/ф **«ОГНИ БОЛЬШОЙ ДЕРЕВНИ». 21.00** Х/ф **«ПАРЕНЬ С НАШЕГО КЛАДБИЩА». 22.40** Х/ф **«ГУДЗОНСКИЙ ЯСТРЕБ».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.05, 1.05, 2.25** Перехватчик. **3.25, 5.05, 6.05, 7.05, 8.05, 9.00, 10.00, 11.00** Налет. **12.00, 13.00, 14.10, 15.10, 16.20, 17.20** Только один взгляд. **18.30, 19.30, 20.35, 21.40, 22.50, 23.55** Жгучая месть.

### ВТВ

**6.00, 7.15, 8.10, 9.05, 11.30, 12.25, 13.55, 14.35, 18.35, 22.30, 23.25, 1.45** Прогноз погоды на неделю. **6.05** Т/с **«ПАПИНЫ ДОЧКИ». 7.20** Скетч-шоу «6 КАДРОВ». **8.15, 3.25** Скетч-шоу «ДАЕШЬ МОЛОДЕЖЬ». **9.10** Мультфильмы «ЧИ-ЧИ ЛЕНД». **9.30** Мультфильмы «ЛИГА WATCHCAR». **9.55** Мультфильмы «МАШИНЫ СКАЗКИ». **10.20** Т/с **«ЕРАЛАШ». 10.40, 14.00, 22.35, 18.40** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **11.35** Шоу «ДЕТСКИЙ КВН». **12.30** Кулинарное-шоу «ПРОСТО КУХНЯ». **13.00** Make-over шоу «УСПЕТЬ ЗА 24 ЧАСА». **14.40** Х/ф **«ТЕРМИНАТОР 3: ВОССТАНИЕ МАШИН». 16.35** Х/ф **«ТЕРМИНАТОР: ДА ПРИДЁТ СПАСИТЕЛЬ». 20.00** Юмористическое шоу «СЛАВА БОГУ, ТЫ ПРИШЁЛ!». **21.00** Х/ф **«ОБИТЕЛЬ ЗЛА 5: ВОЗМЕЗДИЕ». 23.30** Х/ф **«ИСПАНСКИЙ АНГЛИЙСКИЙ». 1.50** «ХОЧУ ВЕРИТЬ!» с Борисом Корчевниковым. **4.00** «ЛОВИ МОМЕНТ». **5.00** «ДУРАКИ И ДОРОГИ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**7.10** Футбол. Чемпионат Англии. Брайтон – Ливерпуль. **9.00** Биатлон. Этап кубка мира. Оберхоф. Гонка преследования. Женщины. **9.55** Биатлон. Этап кубка мира. Оберхоф. Гонка преследования. Мужчины. **10.50, 13.25, 15.00** Спорт-микс. **11.00** Хоккей. Континентальный кубок. Суперфинал. Арлан – ХК Гомель. **12.55** Фактор силы. **13.35** Биатлон. Этап кубка мира. Оберхоф. Эстафета. Женщины. **15.10** Спорт-центр. **17.00** Хоккей. КХЛ. ЦСКА (Москва) – Динамо-Минск. В перерывах Спорт-центр. **19.20** Футбол. Чемпионат Англии. Тоттенхэм – Манчестер Юнайтед. В перерыве – Спорт-центр. **21.20** Волейбол. Открытый чемпионат России. Женщины. Протон (Саратов) – Минчанка. **23.25** Итоги недели. **0.10** Хоккей. Континентальный кубок. Суперфинал. ХК Гомель – Катовице.

### EUROSPORT

**1.15** Ралли-рейд. «Дакар». День отдыха. **1.45** Ралли-рейд. «Африка Эко Рейс». 11-й этап. **2.00, 5.00** Прыжки с трамплина. Кубок мира. Валь-ди-Фьемме. HS 135. **2.45, 7.00, 10.00** Биатлон. Кубок мира. Оберхоф. Мужчины. Гонка преследования. **3.30** Турнир АТР. Сидней. Финал. **6.30, 9.30** Биатлон. Кубок мира. Оберхоф. Женщины. Гонка преследования. **7.30, 11.45** Горные лыжи. Кубок мира. Адельбоден. Мужчины. Слалом-гигант. 2-я попытка. **8.00** Лыжное двоеборье. Кубок мира. Валь-ди-Фьемме. Командный спринт. **8.30** Фристайл. Кубок мира. Калгари. Могул. **10.30** Прыжки с трамплина. Кубок мира. Валь-ди-Фьемме. **12.15** Горные лыжи. Кубок мира. Адельбоден. Мужчины. Слалом. 1-я попытка. **13.30** Биатлон. Кубок мира. Оберхоф. Женщины. Эстафета. **15.15** Горные лыжи. Кубок мира. Адельбоден. Мужчины. Слалом. 2-я попытка. **16.30** Биатлон. Кубок мира. Оберхоф. Мужчины. Эстафета. **18.00** Санный спорт. Кубок мира. Сигулда. Мужчины. 2-я попытка. **18.45** Прыжки с трамплина. Кубок мира. Валь-ди-Фьемме. HS 135. **20.30** Санный спорт. Кубок мира. Сигулда. Команды. Эстафета. **21.00** Биатлон. Кубок мира. Оберхоф. Мужчины. Эстафета. **21.45** Снукер. «Мастерс». Лондон. 1-й день.

# хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00, 16.30, 22.00, 3.00** Автовинтаж. **6.30, 7.30, 17.45, 18.00, 0.00, 0.15** Хорошо забытое. **6.45, 10.45, 14.50, 3.25** Вечер с Пикуленко. **7.25, 10.00, 13.15, 14.40, 0.30, 4.05** Наезд! **7.50, 16.55, 18.15** Супергрузовики. **8.35** Авто: вторые руки. **8.50** Сити тестер. **9.20, 10.20** Мото. Вторые руки. **9.45, 13.00** Вторичка. **10.10** Обновление. **11.30, 22.30** Машины с того света (Сезон 4). **12.15, 20.15, 23.20, 4.15** 9 злобных водителей. **12.45, 20.45, 23.45, 4.45** Проверка на дороге. **13.20, 1.20** Киношные тачки. **13.45, 1.50** Автодело. **14.15** Испытание на прочность. **15.30, 21.00** Автомобильные музеи мира. **16.00, 21.30, 2.30, 5.35** Своими руками. **19.00** Автодрайв 2019. **19.30** Машины с того света (Сезон 5). **0.40** Советы юриста. **2.15** Эконом-тест. **5.00** Гараж для двоих.

### EXPLORE

**6.00, 6.55, 7.50, 8.45, 15.30, 16.20** Речные чудовища. **9.40** Бойня. **10.30, 11.20, 12.10, 13.00, 13.50, 14.40, 19.40** Австралийские золотоискатели. **17.10, 17.30** Гараж: Последний приют. **18.00** Переделка старья. **18.50** Дикая Монтана. **20.30** Наука трюка. **21.20** Самые опасные дороги мира. **22.25** Снос сооружений: взрывная команда. **23.25** Строительство гигантов. **0.15** Строители суперкаров. **1.15, 1.40, 4.25, 4.50, 5.25** Полигон. **2.15, 2.35** Дроны. **3.00, 3.25, 3.55** Невероятные изобретения.

### HISTORY

**6.15, 6.45, 7.10, 7.35, 4.15, 4.45** Невероятные изобретения. **8.10, 8.35, 9.05, 9.30, 10.00, 10.25, 10.50, 11.15, 11.40** Погода, изменившая ход истории. **12.05** Скрытые следы: Ватерлоо. **13.00** Величайшие мистификации в истории. **13.50** Смертоносный интеллект. **14.40** Загадочные убийства: царственные особы. **15.30** Преступность военного времени. **16.20, 16.50** Тайны Парижа. **17.20, 18.10, 2.35** Запретная история. **19.00** Скрытые следы: Война во Вьетнаме. **20.00** Как климат изменил ход истории. **20.55** Гении древнего мира. **22.00** Владыки Тихоокеанского побережья. **23.05** Лагерь Икс. **23.50** Последнее путешествие Романовых. **0.50** Революция в России. **1.40** Машины смерти. **3.25, 5.15** Музейные тайны.

### NATURE

**6.00, 6.25, 6.55, 7.20, 7.50, 8.15** Пол О'Грэди: из любви к собакам. **8.45, 9.10, 9.40, 10.05, 10.35, 11.00** Лучшие друзья собаки. **11.30, 12.30, 13.30** Дикая Бразилия. **14.25, 15.20, 16.15** Огромные звери: последние из великанов. **17.10** Динозавры в Австралии. **18.00** Загадки исчезнувших великанов. **19.00, 22.55** Новый взгляд на тираннозавра. **20.00, 21.00, 23.50, 0.55** Разговор с животными. **22.05** Хищные питомцы. **2.00, 2.20, 2.40, 3.00** Путешествие по паркам. **3.25, 4.20** Возвращение дикой природы. **5.10, 5.35** Ветеринары пограничья.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00, 6.50** Инженерные идеи. **7.45, 8.30, 4.25, 5.15** Авто – SOS. **9.20, 10.05** Дикий тунец: Север против юга. **10.55, 11.20, 11.40, 12.05, 12.30, 12.50, 14.55, 15.15, 15.40, 16.00, 16.25, 16.50, 17.10, 17.35, 19.30, 19.55, 20.20, 20.40, 21.10, 21.35** История десятилетий. **13.15, 14.05, 0.15, 1.05** История о нас. **18.00, 22.00** Подъем «Коста Конкордии». **18.45, 22.45** Катастрофа «Коста Конкордии». **23.30** Осушить океан: «Титаник». **1.55** Международный аэропорт Дубай. **2.45, 3.35** Паранормальное.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 23.40** Зимняя рыбалка в Удмуртии. **6.30, 23.00** Поймай и сними. **6.55, 0.05** Природа мужской кухни с Сержем Марковичем. **7.10, 0.20** Охотничья и рыболовная кухня. **7.30, 0.35** Рецепты старого Тифлиса. **7.45, 0.50** Простые рецепты. **8.00** Горная охота на колымского снежного барана. **8.30** Территория льда. **9.00** Рыбалка в России. **9.30** На охотничьей тропе. **10.00** Охотник-одиночка. **10.30** Рыбалка с Нормундом Грабовскисом. **11.00, 17.35, 1.05, 5.00** Практическая школа нахлыста. **11.30, 19.00, 1.35, 5.30** Беларусь: в поисках хорошего клева. **12.00, 18.00** Кухня с Сержем Марковичем. **12.15, 18.20** Кулинарное путешествие с Глебом Астафьевым. **12.45, 18.45** Дело вкуса. **13.00** На рыбалку с охотой. **13.30** Фотоохота с Евгением Полонским. **14.00** Сам себе охотник. **14.30, 2.00** Рыбалка-шоу ТВ. **14.55, 2.30** Охота: собачья работа. **15.30, 20.30, 3.00** На рыбалку вместе с папой. **16.00, 21.00, 3.30** Морская подводная охота. **16.30, 4.00** Рыбалка сегодня. **16.45, 4.15** Донская рыбалка. **17.15, 4.40** Нож-помощник. **19.30** Поймать лосося. **20.00** Нахлыст. **21.30** В поисках лосося. **22.00** Охотник. **22.30** Охота и рыбалка в. **23.25** Особенности охоты на Руси.

### УСАДЬБА

**6.00** Дачная энциклопедия. **6.30** Легендарные братья-пекари. **7.00** Придворный дизайн. **7.30** Школа дизайна. **8.00** Сам себе дизайнер. **8.15** Дачных дел мастер. **8.45, 0.45** Прогулка по саду. **9.15, 9.30** Чай вдвоем. **9.45** Паштеты. **10.00** заСАДа. **10.25** 101 ответ о садоводстве. **10.55** Беспокойное хозяйство. **11.35** Мастер. **12.00** Забытые ремесла. **12.20** Частный сектор. **12.50** Лавки чудес. **13.20** Умный дом. Новейшие технологии. **13.50** Свечной заводик. **14.05, 17.30, 2.00** Большие идеи для маленького сада. **15.05, 19.00, 3.05** Варенье. **15.30, 19.35, 3.35** Деревянная Россия. **15.55, 20.05, 4.05** Осторожно злая собака. **16.25, 20.35, 4.30** Старые дачи. **16.55, 21.05, 5.00** Дачные хитрости. **17.15, 21.20, 5.15** Занимательная флористика. **18.30** Огород круглый год. **19.15, 3.20** Лучки-пучки. **21.35, 5.35** Побег из города. **22.05** Сельские профессии. **22.35** Усадьба будущего. **23.00** Проект мечты. **23.30** Идеальный сад. **0.00** Битва огородов. **0.30** Приглашайте в гости. **1.10** Да здравствует мыло душистое! **1.30** Флористика. **1.40** Цветик-семицветик.

## SETANTA SPORTS

### ПЯТНИЦА

**0.15** Д/ф «БЕССМЕРТНЫЕ: МЕЙВЕЗЕР. ФРЭЙЗЕР. ФОРМАН». **0.45** Хоккей. НХЛ. «Чикаго» – «Нэшвилл». **2.45, 15.00** Футбол. Чемпионат Италии. «Эмполи» – «Интер». **4.30** Бокс. Обзор лучших поединков. **5.30, 11.45** Бокс. Еженедельный обзор. **6.00, 17.45** Хоккей. НХЛ. «Вегас» – «Сан-Хосе». **9.00** Д/ф «МЕСТО, ГДЕ РОЖДАЮТСЯ КЛУБЫ». **9.30** Футбол. Чемпионат Италии. «Милан» – «СПАЛ». **11.15** Д/ф «БЕССМЕРТНЫЕ: ПЛАВАНИЕ. ФЕЛПС. ТОРП. СПИТЦ. ФРЕЙЗЕР». **12.15, 16.45** Футбол. Чемпионат Испании. Обзор. **13.15** Футбол. Чемпионат Испании. «Реал Мадрид» – «Реал Сосьедад». **19.45** Д/ф «БЕССМЕРТНЫЕ: ЛЕБРОН. ДЖОРДАН. ДЖОНСОН». **20.15** Д/ф «БЕССМЕРТНЫЕ: ШУМАХЕР. ГАМИЛЬТОН. РОССИ». **20.45** Футбол. Чемпионат Италии. «Наполи» – «Болонья». **22.30** Д/ф «ЗВЕЗДЫ ФУТБОЛА». **22.55** Футбол. Чемпионат Испании. «Райо Вальекано» – «Сельта Виго».

### СУББОТА

**1.00** Хоккей. НХЛ. «Вегас» – «Сан-Хосе». **3.00** Д/ф «ЗВЕЗДЫ ФУТБОЛА». **3.30, 13.00** Хоккей. НХЛ. «Каролина» – «Буффало». **6.30** Д/ф «БЕССМЕРТНЫЕ: ПЛАВАНИЕ. ФЕЛПС. ТОРП. СПИТЦ. ФРЕЙЗЕР». **7.00** Бокс. Обзор лучших поединков. **8.00, 18.00, 20.15, 22.30** «Сетанта Спорт Экстра». **8.15** Футбол. Чемпионат Испании. «Райо Вальекано» – «Сельта Виго». **10.00** Смешанные единоборства. UFC 232. **14.55** Футбол. Чемпионат Испании. «Леганес» – «Уэска». **17.00** Д/ф «КОМАНДЫ МЕЧТЫ: «МАНЧЕСТЕР СИТИ». ВЕРНЫЕ ОДНОМУ КЛУБУ». **17.30** Д/ф «КОМАНДЫ МЕЧТЫ: «ИНТЕР». **18.10** Футбол. Чемпионат Испании. «Валенсия» – «Реал Вальядолид». **20.25** Футбол. Чемпионат Испании. «Жирона» – «Алавес». **22.40** Футбол. Чемпионат Испании. «Вильярреал» – «Хетафе».

### ВОСКРЕСЕНЬЕ

**0.45, 9.30** Бокс. Еженедельный обзор. **1.15** Футбол. Чемпионат Италии. «Милан» – СПАЛ». **3.00, 16.00** Хоккей. НХЛ. «Монреаль» – «Колорадо». **6.00, 12.00** Хоккей. НХЛ. «Эдмонтон» – «Аризона». **9.00** Д/ф «БЕССМЕРТНЫЕ: ФЕДЕРЕР. ЛЕЙВЕР. МАКИНРОЙ. ГРАФ». **10.00, 18.00, 20.15, 22.30** «Сетанта Спорт Экстра». **10.15** Футбол. Чемпионат Испании. «Вильярреал» – «Хетафе». **13.55** Футбол.Чемпионат Испании. «Атлетико Мадрид» – «Леванте». **18.10** Футбол. Чемпионат Испании. «Атлетик» – «Севилья». **20.25** Футбол. Чемпионат Испании. «Барселона» -«Эйбар». **22.40** Футбол. Чемпионат Испании. «Реал Бетис» – «Реал Мадрид».


Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Выхаванцы беларускамоўнай групы.

# Першым выхаванцам садка №8 – ужо за сорак

СМАРГОНЬ

**У апошнія дні снежня яслі-сад №8 у Смаргоні святкуе юбілей.**

Сорак год таму сюды прыйшлі першыя выхаванцы. Многія з іх, ужо дарослыя, прыводзяць сюды сваіх дзяцей і ўнукаў.

Пачынаць заўсёды нялёгка. Трэба змагацца з цяжкасцямі, перашкодамі і ўсё адолець. Мы з усім справіліся.

Першай гаспадыняй, загадчыцай нашай дашкольнай установы, была **Ірына Карабінская** – вельмі адукаваны педагог. Менавіта яна стварыла дружны, творчы калектыў у садку, якім кіравала больш за 20 гадоў.

Ля вытокаў нараджэння нашага дзіцячага садка стаялі адукаваныя супрацоўнікі. Гэта метадыст **Ганна Куц**, выхавальнікі **Святлана Мішчановіч**, **Ала Цыкота**, **Валянціна Сухалет**, **Ніна Шапель**. Музычныя здольнасці выхаванцаў развівалі **Алена Варанкова** і **Алена Мейсак**. Адміністрацыйныя пытанні вырашала намеснік загадчыка па асноўнай дзейнасці **Таццяна Апанасёнак**.

Ад 2005 года садком кіруе **Віктар Кеда**. Дзякуючы яму наш садок становіцца больш прыгожым і сучасным. Тут своечасова робіць рамонт, у групе ёсць новая мэбля і ўсё іншае, што так неабходна дзецям.


Фота забяспечана Ірынай САЛЬМАНОВІЧ.

Так выглядае садок улетку, калі шмат кветак.

Сёння таксама ў нас у садку калектыў дружны і творчы. Сваю цеплыню і любоў ужо шмат гадоў маленькім выхаванцам дораць **Таццяна Здановіч**, **Наталля Канавалава**, **Ірына Сальмановіч**, **Галіна Шутовіч**, **Алена Сухалет**, **Ірына Сташкевіч**. Фізкультурай з дзецьмі займаецца **Алена Дземідовіч**, дэфектолагам паспяхова працуе **Святлана Буцько**.

Нядаўна прыйшлі на працу ў садок маладыя педагогі. Ужыліся ў калектыў, набіраюцца доследу ад старэйшых калег **Паліна Васілеўская**, **Галіна Краўцова**, **Ірына Жукоўская**, **Алена Зянкевіч**, **Юлія Міхалькевіч**, **Аляксандра Палянская**.

Дзякуючы памочнікам выхавальнікаў у групах заўсёды ўтульнасць і чысціня. А на працягу некалькіх апошніх дзён – у садку свята.

**Ірына САЛЬМАНОВІЧ,**
**выхавальнік ясляў-сада №8.**



## Дзённік мамы другакласніцы: галоўнага падарунка ад Дзеда Мароза пакуль не дачакаліся

МАЛАДЗЕЧНА

**Сёлета ў Варвары былі тры навагоднія ранішнікі. А святочны настрой стварыўся задоўга да іх. Як заўсёды, на ўваходзе школы павесілі казачныя агеньчыкі, а на школьных калідорах з'явіліся крэатыўныя фотазоны.**

Святочны парадак распачало прадстаўленне ў Палацы культуры 24 снежня. Далей быў ранішнік у школе, і, нарэшце, – сходзіла з аднакласнікамі і настаўнікам у «Батлейку».

Спадабалася ўсюды. У палацы – таму, што была ў першы раз, усё прыгожа і давалі некалькі падарункаў. У школе – бо побач аднакласнікі і любімы настаўнік. А яшчэ старэйшая сястра Юля са сваімі аднакласніцамі паказвала другакласнікам прыгожыя сучасныя танцы, якія тыя паўтаралі.

У Юлі ўвогуле першая палова канікулаў выдалася насычанай. Спачатку – навагодняя дыскатэка. А потым – два дні запар – раніцай танцы на ранішніках у малых, пасля абеду – Снягурка на канцэрце ў вялікіх. У адносна вялікіх: у пятых, шостых, сёмых і восьмых класах.

Але вернемся да Вары і да яе ранішнікаў. У «Батлейцы» паказвалі казку «Чараўнік Ізумруднага горада», якую яна вельмі любіць.

Ну і, канешне, падарункаў ад Дзеда Мароза дома Варвара таксама чакае. Цукеркі, атрыманыя на шматлікіх ранішніках, – падарунак так сабе.

Пажадана, каб Дзед Мароз прыносіў нешта кожны дзень, пакуль стаіць ёлка. Таму бацькі імкнуцца паставіць навагоднюю дрэўца як мага пазней.

Да таго ж імкнуся паціху, каб без стрэсу, даводзіць Варвары як вялікай дзяўчынцы, што падарункі ад Дзеда Мароза могуць прыносіць бацькі і ў іх не заўсёды могуць быць грошы на штодзённыя сюрпрызы пад ёлку. Але дачка мне ўпарта не верыць і пераканаeverything, што Дзед Мароз – ёсць!

Для традыцыйных зімовых забаў пакуль зусім не пасуе надвор'е. А хочацца ж і снежкаў, і снегавіка, і пакатушак на санках. Ёсць у нас адна любімая горка на Вілейшчыне. Шчыра скажу, не горшая за Сілічы. І бясплатна.

Адзнакамі за чвэрць пахваліцца не можам пакуль, таму што іх няма ў другім класе. Затое на дзясятку здала экзамен па дудцы. Па-ранейшаму працягвае займацца з задавальненнем. Дома сама бярэ інструмент і іграе без прымусу. І нават суседзі зверху ўжо амаль не барабаняць нам. Напэўна, адчулі нарэшце ўсю прыгажосць Варварынай музыкі.

Прызнаюся шчыра, урокамі пакуль не займаемся. Добра, калі пачытае ў сваё задавальненне. Вось адбудзецца карпаратыў, навагоднія святы, і тады бліжэй да канца канікулаў у мамы нарэшце з'явіцца час, каб крыху пазаймацца з дачкой. Спадзяюся.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



– Якая прыгожая Снягурка – наша Юля! Але я таксама прыгажуня, – адзначала Варвара. На фота – снягурка Юля зрабіла сэлфі.

## Вучань з Людвінова – пераможца конкурсу навукова-даследчых і творчых прац

ВІЛЕЙКА

14 снежня ў актавай зале Мінскай духоўнай акадэміі падвялі вынікі V рэспубліканскага конкурсу навукова-даследчых і творчых работ «Тут родныя трымаюць карані...».

Усяго на конкурс паступіла 315 работ, з іх 289 разгледзелі. Дыпломы пераможцаў атрымалі 129 удзельнікаў.

У намінацыі «З гісторыі майго роду» дыплом III ступені атрымаў **Іван Дубаневіч** – вучань Людвіноўскай сярэдняй школы Кіраўнік – **Людміла Дубаневіч**, настаўнік беларускай мовы і літаратуры.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Валожынцы – у пераможцах абласной алімпіяды па грамадазнаўстве

ВАЛОЖЫН

385 дзевяцікласнікаў Міншчыны паўдзельнічалі ў абласной інтэрнэт-алімпіядзе па грамадазнаўстве. Сярод пераможцаў ёсць вучні з Валожына.

Дыпломам другой ступені ўзнагародзілі **Мікіту Князева** з валожынскай гімназіі №1.

Трэцяе месца – у **Андрэя Лушнова** з гэтай жа гімназіі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Музей запрасіў дзяцей на «Калядны квэст»

СМАРГОНЬ

У рамках акцыі «Нашы дзеці» супрацоўнікі Смаргонскага гісторыка-краязнаўчага музея запрасілі ў госці дзяцей з сацыяльна-педагагічнага цэнтра. Для іх арганізавалі мерапрыемства пад назвай «Калядны квэст».

Квэст уяўляў сабой выкананне пяці разнастайных заданняў, кожнае з якіх было звязанае з Калядамі або Новым годам. Дзеці глядзелі фрагменты мультфільмаў і пісалі іх назвы, рашалі галаваломкі, адгадвалі казкі, адказвалі на пытанні, якія былі звязаныя з асаблівасцямі святкавання і традыцыямі Раства.

Пасля выканання заданняў дзецям прапанавалі жартоўную варажбу. Лататрон пажаданняў абяцаў ім поспехі ў вучобе, здароўе і шмат сяброў. На развітанне супрацоўнікі музея паднеслі гасцям салодкія падарункі.

**Паводле shliah.by.**

# «Не помню, калі была такая па-дзіцячы шчаслівая»

## Ёлку з сэнсам зладзілі ў Навасадах. З вялікімі прыгодамі

**Святочную вечарыну з конкурсамі, карагодамі і падарункамі зладзіў гаспадар сядзібы ў Навасадах Алег Куралесаў.**

ВІЛЕЙКА

Свята адбылося ў чацвер, 27 снежня. Адзін з водгукаў ад урачыстасці пакінула **Ксенія Бохан**: «Дзякуй, што вы ёсць такі! Дзеці былі такія шчаслівыя атрымаць гэтыя падарункі! Свята проста выдатнае: Пірат і Фіксік, папкорн і вата, Дзед Мароз прыехаў на кані. Усё так з цяплом і любоўю. Мой вам паклон!».

Вось водгук **Веранікі Гіль**: «Гэты чалавек зрабіў неверагоднае навагоднае свята для дзяцей і бацькоў з мясцовых вёсак, зрабіў фактычна адзін. Не помню, калі была такая па-дзіцячы шчаслівая. Не помню, ці бачыла ўвогуле ў вёсцы штосьці падобнае: дом ля возера, а ў доме свята – папкорн, салодкая вата, глінтвейн і частаванні, праграма для дзяцей, Дзед Мароз на возе з падарункамі, сапраўдная ёлка ў двары з самаробнымі цацкамі ўсіх удзельнікаў, гульні, снежкі, танцы ля кастра.

А самае галоўнае – захапленне, якое па нарастаючай спее, грэецца, бурліць і вырываецца дзіцячым смехам і шчасцем знутры ўжо такіх дарослых нас. Таму што ўсё па-сапраўднаму і шчыра. Не вельмі люблю, калі такія месцы называюць крыху размыта – атмасфернымі ці месцам сілы. Мне бліжэй месцы з сэнсам».

### Як атрымалася зладзіць свята

Алег Куралесаў задумаў зладзіць такое навагоднае свята некалькі месяцаў таму. Вырашыў, што ў вёсцы асабліва патрэбныя яркія ўражанні для дзяцей. І што для сапраўднага свята неабходныя яркія падарункі.

Каб прывезці падарункі, Куралесаў паехаў у Германію. Менавіта ў гэтай краіне ён некалькі год жыў, пакуль не вырашыў: каб адчуваць больш свабоды, трэба вярнуцца ў Беларусь.

У Германіі сярод знаёмых арганізаваў дабрачынны збор сродкаў для дзяцей у Беларусі. Рэчаў сабралі нашмат больш, чым планаваў арганізатар – сямнаццаць 120-літровых мяхоў з дзіцячымі рэчамі і два чамаданы. У першую чаргу рэчы прызначаліся для дзяцей, якіх выхоўваюць у сям'і ва ўмовах невялікага дастатку.

Вывезці іх атрымалася з прыгодамі. Спачатку яго кіроўца з Германіі, які павінны быў завезці ў Беларусь, давёз толькі да Варшавы. Там перадаў свайму калегу, якога па дарозе затрымалі ў паліцыі. Алегу трэба было спяшацца, таму ён выгрузіў пакеты і стаў шукаць кіроўцу, які мог бы давезці да мяжы. На мяжы знайшоў іншага кіроўцу, які перавёз бы ў Брэст. Знайшоў такога, хто пагадзіўся.

Падарожнікі паехалі праз зялёны калідор у Беларусь. Алег не ведаў правілы растаможкі. Аказалася, як расказаў мужчына, што ў яго быў перабор тавараў у 70 кілаграмаў. Трэба плаціць штраф, вяртацца ў Польшчу і вывозіць рэчы часткамі.

Кіроўца выгрузіў 17 мяхоў Алега і паехаў далей. Ішлі другія суткі дарогі, і за ўвесь гэты час ён з'еў толькі два бутэрброды. Мяхі забралі ў мытню, а ў магазін мужчыну не пускалі.

Алег спрабаваў патлумачыць, што гэта дабрачынныя рэчы. А не аформіў іх гуманітаркай таму, што на справу спатрэбілася б некалькі месяцаў. Куралесаў жа хацеў паспець зладзіць свята да Новага года. Нарэшце яму далі пратакол, давялося аплаціць 60 еўра штрафу. Пачаў шукаць чарговага кіроўцу, які перавёз бы рэчы назад праз польскую мяжу. Пагадзіўся ўзяць кіроўца аўтобуса. Аднак польскі мытнік пры доглядзе спытаўся, навошта яму ў Польшчы 17 мяхоў смецця.

Адна з пасажырак аўтобуса параіла дамовіцца з іншымі і размеркаваць мяхі паміж імі, каб не было перабору.

За дзве гадзіны ён раздаў усе мяхі, пакінуўшы сабе адзін і два чамаданы. Злавіў спадарожную машыну і зноў рушыў на мяжу. Пераважкі ўжо не было, і хутка Алег трапіў у Брэст. Там пазбіраў астатнія мяхі і знайшоў машыну да Мінска.

Пасля такіх прыгодаў у Куралесава атрымалася зладзіць чароўнае свята для вяскоўцаў. З цэлым возам цудоўных падарункаў.

**Эмілія ХВОЯ.**



Фота Віталя НАЗАРЭВІЧА.



Фота Віталя НАЗАРЭВІЧА.



Фота Віталя НАЗАРЭВІЧА.



Фота Віталя НАЗАРЭВІЧА.



Фота Паўла ХАВАНСКАГА.

# Як выглядае Крэва і ваколіцы ў нямецкіх фотаальбомах часоў Першай сусветнай

СМАРГОНЬ

**Неяк на пачатку 2000-х прафесар Торунскага ўніверсітэта Станіслаў Александровіч, наведаўшы Крэва, перадаў у распараджэнне мясцовых краязнаўцаў альбом са здымкамі, выдадзенымі немцамі ў час Першай сусветнай.**



Нямецкія салдаты з мясцовымі жыхарамі ў Крэве.

Брашура «Крэва. Год пазіцыйнай вайны. Верасень 1915 – верасень 1916» прысвечаная, як значыцца на тытульным лісце, «храбрацам Трэцяга ландверскага палка». Яна выпушчаная выдаўцом **Гілерам** у Брэславе і надрукаваная ў Дрэздэне. Прадмовай да кніжкі з'яўляецца верш, які праслаўляе тых самых «храбрацоў».

Мірнымі выглядаюць здымкі «Сельская гаспадарка пры палку №3» і «Конегадоўля пры палку №3». Пра ваенны час тут нагадвае толькі салдацкая вопратка.

На здымку, які ў кніжцы мае назву «Добрае суседства», мы бачым нямецкіх вайскоўцаў разам з мясцовымі жыхарамі.

Другая частка надрукаваных у брашуры фатаграфій прысвечаная тагачаснаму выгляду Крэва. На адным са здымкаў мы бачым Аляксандра-Неўскую царкву. Але тут яна чамусьці названая «польскай»:

Сённяшняга жыхара Крэва можа ўвесці ў зман выгляд яшчэ аднаго храма, які сустракаецца ў кніжцы. Гэта – Свята-Троіцкая царква.

Вядома, што храм разбурылі якраз у час «мікалаеўскай вайны» і што стаяў ён на тым месцы, дзе за Польшчай быў узведзены драўляны касцёл, перароблены пры Саветах у бальніцу.

У пачатку восені 1915 года тут спынілася лінія фронту

Апынуўшыся на перадавых пазіцыях варагуючых бакоў, абедзве крэўскія святыні ператварыліся ў ваенна-стратэгічныя аб'екты. Абедзве моцна пацярпелі ў ходзе жорсткіх баёў. І калі Аляксандра-Неўскай царкве ў пасляваенны час так-сяк удалося ацалець, то для Свята-Троіцкай гады вайны сталі апошнімі ў жыцці.



Свята-троіцкая царква захавалася толькі на здымку.

Дзірка ў сцяне Крэўскага замка з часам стала значна большай.

На фотаздымках замка княская вежа пакуль не зведала таго страшэннага разбурэння, у ёй яшчэ добра бачны вокны, чаго цяпер не назіраецца.

У канцы вайны, у 1918 годзе, у тым самым выдавецтве і нават у падобным афармленні брашура была перавыдадзена пад назвай «Карціны баёў на лініі Крэва-Смаргонь».

У другім альбоме ўжо 20 здымкаў. Шэсць з іх, зробленыя ў пачатку баявых дзеянняў нашай мясцовасці. Астатнія прадстаўляюць гледачу тое, што можна было пабачыць тут у перыяд ад той самай наступальнай аперацыі рускіх і да заканчэння баявых дзеянняў.

Два здымкі – з відам на замак і Троіцкую царкву – зробленыя амаль з аднаго і таго ж месца, з боку Багданаўскай вуліцы. Адзін перакачаваў сюды з першага альбома і адлюстроўвае стан мястэчка ў першы год баявых дзеянняў. Другі паказвае, як змяніўся пейзаж у канцы вайны.

У другім выданні альбома ўжо няма верша пра адважных нямецкіх байцоў. Затое разбураныя пазіцыі, збіты самалёт, знявечаныя трупы на полі бою, магілкі ў Полтараўшчыне і магіла расійскіх лётчыкаў, якія загінулі ў небе над Барунамі.

Характар другога выдання альбома кардынальна змяніўся. Відаць, змяніліся і адносіны самых немцаў да вайны. У новым альбоме ўжо адсутнічае бравурнасць і амаль няма мірных карцінак з экзотыкай заваяваных зямель. Ёсць здымкі, прасякнутыя думкай, што вайна – гэта не захапляльная прыгода, а разбурэнне, людское гора і смерць.

**Аляксандр КАМІНСКІ, Крэва.**

● КАЛЯНДАР

**4 СТУДЗЕНЯ**

**1729.** 290 гадоў з дня нараджэння **Яўхіма Храптовіча**, грамадска-палітычнага, дзяржаўнага дзеяча ВКЛ, публіцыста, паэта, перакладчыка.

**1869.** 150 гадоў з дня нараджэння **Ядвігіна Ш.** (сапр. Антон Лявіцкі), пісьменніка, літаратуразнаўца, грамадскага дзеяча.

**6 СТУДЗЕНЯ**

**1892.** Нарадзіўся **Адам Станкевіч** (в. Арлянята, цяпер Смаргонскі раён), рымска-каталіцкі святар, грамадска-культурны дзеяч, асветнік, культуролаг, літаратуразнаўца, выдавец.

**2004.** 15 гадоў назад у Нью-Ёрку памёр **Янка Юхнавец**, пісьменнік, дзеяч эміграцыі ў ЗША. Паводле ягонага тастаменту, цела было спаленае, а попел развеяны ў Нью-Ёрку.

**1610.** Памёр **Андрэй Волан**, вялікалітоўскі палітычны дзеяч, філосаф, ідэолаг рэфарматараў-евангелістаў, пісьменнік, сакратар Мікалая Радзівіла Рудога, каралёў Жыгімонта Аўгуста, Стэфана Баторыя, Жыгімонта Вазы. Пахаваны ў Біюцішках. Нарадзіўся ў 1530 годзе ў маёнтку Біюцішкі, цяпер Ашмянскі раён.

**7 СТУДЗЕНЯ**

**Каляды па праваслаўным календары.**

**1917.** Нарадзіўся Святаслаў Коўш (мястэчка Ілья, цяпер Вілейскі раён), праваслаўны святар, пісьменнік, дзеяч эміграцыі ў Германіі і ЗША.

**1991.** Памёр **Кандрат Крапіва** (сапр. Атраховіч), драматург, паэт, мовазнавец.

**8 СТУДЗЕНЯ**

**1936.** Нарадзіўся **Генадзь Каханоўскі** (в. Дамашы, цяпер Маладзечанскі раён), гісторык, краязнаўца, літаратуразнаўца.

**1879.** 140 гадоў з дня нараджэння **Флягонта Валынца** (г. Вілейка), дзеяча заходнебеларускага нацыянальнага руху. У 1897 годзе скончыў Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю. Ад лістапада 1917 года – гарадскі галава Вілейкі, ад лютага 1918 – старшыня гарсавета. У час нямецкай акупацыі абраны жыхарамі горада бургамістрам. Летам 1920 года быў старшынёй рэвалюцыйнага камітэта Вілейкі. Арыштоўваўся два разы. Расстраляны ў Карэла-Фінскай АССР 27 лістапада 1937 ці 9 кастрычніка 1941 года.

**1894.** 125 гадоў назад нарадзіўся **Максіміліян Кольбэ**, рэлігійны дзеяч, святы каталіцкай царквы, замучаны ў фашысцкім канцэнтрацыйным лагеры. У 1922-1927 гг. служыў у Гродзенскім кляштары францішканцаў.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

# У Вілейцы зладзілі навагодні аўтапарад

ВІЛЕЙКА

**У суботу, 29 снежня, віляйчане назіралі святочнае шэсце на колах.**

Розныя арганізацыі і прадпрыемствы раёна далучыліся да ўдзелу. Прадстаўнікі кожнага з іх упрыгожылі хто аўтамабіль ці матацыкл, а хто і трактар або аўтобус.

Самі работнікі апрануліся ў яркія касцюмы. Дзяды Марозы, Снягуркі, Парасяты, Цыганкі, Піраты, Мішкі, Бабкі Ёжкі, Снегавікі і іншыя персанажы былі адзін прыгажэйшы за другога.

Адны ўпрыгожылі машыну ў Дзеда Мароза, іншыя зрабілі з аўтобуса Парася. Цацкі і падарункі дадавалі чароўнасці кожнай з груп парада.

Гараджане назіралі за вясёлым парадам і з задавальненнем фатаграфаваліся з незвычайнымі персанажамі.

Пасля ўсіх чакала музычная праграма з песнямі і карагодамі ля ёлкі на цэнтральнай плошчы райцэнтра.

**Сяргей ЛЕСКЕЦЬ.**
**Фота аўтара.**



















● ХОЧАЦЕ – ВЕРЦЕ, ХОЧАЦЕ – НЕ

# Год абяцае быць загадкавым і не пазбаўленым цяжкасцяў

**Свіння дзякуючы пакладзістаму і цярпліваму нораву абяцае прынесці шмат станоўчых змен у жыццё кожнага.**



**АВЕН.** Марс у новым годзе будзе не на вашым боку. Упартасць і настойлівасць, якіх вам не займаць, проста знікнуць. З-за гэтага адбудуцца змены ў характары, і яны прынясуць карысць. Спад звыклай напорыстасці і энергіі чакаецца ў першыя паўгода. Менавіта гэты час дадзены вам на аднаўленне ўнутраных сіл, складанне планаў і нармалізацыю адносін з блізкімі. У 2019-м вам прадракаюць каханне, нават сямейным. Будуць галавакружныя раманы, сустрэчы, расстанні. Але калі ў вашых планах і ў намерах вашага спадарожніка няма марша Мендэльсона, то захоўвайце асцярожнасць. Свінкі падораць вам насычаны жыццёвы рытм, вы пастараецеся паспець усюды. Удача будзе на вашым баку, таму карыстайцеся момантам.



**ЦЯЛЕЦ.** Улічваючы той факт, што 2019 год праходзіць пад апякунствам стыхіі Зямлі, вам даецца магчымасць узяць ад жыцця ўсё, што пажадаеце. Вы атрымаеце перавагі ў прафесійнай сферы, у зоне дзелавых адносінаў. Вы нават ленавацца і то будзеце з карысцю. Ідэі будуць наведваць літаральна кожны дзень, а вы зможаце своечасова злавіць свае думкі і ўвасобіць у жыццё мэты, якія ўзніклі калісьці ў галаве. А зоркі ўладзяць усё так добра, што вы нават і не ўяўлялі. Многія з вас стануць бацькамі. Зоркі раяць тым, хто хоча стварыць сям'ю, смела ісці у ЗАГС, нават калі да гэтага былі сумненні. Зімой вас чакае цікавая камандзіроўка ў іншы горад ці нават краіну. Грошай хопіць на ўсё, бо вы ўмееце не толькі зарабляць і купіць, але і адкладваць.



**БЛІЗНЯТЫ.** Вы ў 2019 годзе будзеце ўзнагароджаныя за свой лёгкі характар. Свінка паабяцала вам і поспех у справах, і шчасце ў каханні, і нават фінансавую ўдачу, але ўсе гэтыя дары атрымаюць толькі працавітыя і адказныя. І перажываць такім людзям не трэба – ужо вясной вы разберацеся з усімі мінулагоднімі праблемамі і прыступіце да ўвасаблення новых планаў. Вас чакаюць цікавыя і заманлівыя прапановы, жыццё будзе віраваць – і на рабоце, і дома. Адчуце цягу да творчай дзейнасці, бо Свіння любіць незвычайных людзей і падтрымае падапечных Меркурыя ва ўсім. У вас будзе магчымасць нават наведаць экзатычныя краіны. Цудоўны год. Толькі адмоўцеся ад экстрэмальных відаў спорту – высокая рызыка траўматызму.



**РАК.** Апякун вашага знака – Месяц, які ў 2019 годзе будзе цалкам на баку свайго падапечнага. Вас чакае поспех у фінансах, у кар'еры і асабліва ў каханні. З самага пачатку года бярыце ініцыятыву ў свае рукі: вам будзе лёгка заводзіць новыя карысныя знаёмствы, можна смела даверыцца інтуіцыі і пачаць сваю справу. Першую палову года лепш прысвяціць кар'еры, самаадукацыі, а вось з восені наступіць час для душы. Фінансы будуць падобныя да арэляў: у пачатку года чакаюцца траты. А накапленні можна будзе рабіць бліжэй да зімы. І не трацьце час на тых людзей, якія прыносяць у ваша жыццё негатыў. Старайцеся правільна харчавацца і хоць трохі займацца спортам. І не забывайце сябе песціць.



**ЛЕЎ.** Вашым апекуном у 2019 годзе стане Сонца. Чакаецца прыліў сіл і каласальнай энергіі, якой трэба правільна распарадзіцца. Важна накіраваць яе на стварэнне, і тады вам будзе спадарожнічаць поспех у справах і ў адносінах з блізкімі. Пік актыўнасці ўплыву Сонца – жнівень. У адзінокіх ёсць высокая верагоднасць сустрэць сваё вялікае каханне, прычым пачуцці будуць настолькі моцнымі, што прынясуць сур'ёзныя перамены: пераезд у іншы горад ці нават краіну, змену работы. Размяркоўвайце сілы і не перанапружвайцеся. Задумайцеся пра тое, што трэба менавіта вам, і не спяшайцеся вырашаць чужыя праблемы (колькі можна?!). Каб не падарваць здароўе – не разрывайцеся паміж работай і сям'ёй, трымайце баланс.



**ДЗЕВА.** Вы ў спісе шчаслівчыкаў. У 2019 годзе вы апынецеся ў сваёй стыхіі, адчуеце прыліў сіл, а таксама з'яўленне перспектыўных тэндэнцый, таму год пройдзе лёгка, прытым пад уплывам Меркурыя. Ён дасць натхненне і энергію для рэалізацыі новых планаў. Гэта цудоўны момант, калі можна мяняць цячэнне жыцця. Асабліва плённым будзе перыяд вясна-лета, калі зможаце падняцца па кар'ернай лесвіцы, зацвердзіцца на новым месцы работы, адкрыць у сабе творчы пачатак. Для некаторых год стане работай над памылкамі і падвядзеннем вынікаў. Цяпер прыйшоў той самы час зборy ўраджаю. І пажнеце вы роўна тое, што пасеялі. Пазбягайце пераахаладжэння і іншых празмерных нагрузак на арганізм, яны могуць адгукнуцца хранічнымі захворваннямі.



**ШАЛІ.** Для вас год Свінні прынясе сур'ёзныя перамены. Вы, нарэшце, зможаце цалкам вызваліцца ад дэструктыўных сувязяў і наладзіць кантакты з тымі людзьмі, адносіны з якімі прыносяць камфорт і задавальненне. У вас з'явіцца жаданне навучыцца чамусьці новаму ці ператварыць сваё хобі ў крыніцу даходу. Некаторыя вырашаць змяніць работу ці нават атрымаць новую прафесію. Кожнага, хто пойдзе за натхненнем, чакае поспех – абставіны будуць працаваць на вас. Венера, апякунка Шаляў, дапаможа ў каханні. Выпрабоўваць ім яна будзе ад красавіка да чэрвеня. Нават сямейныя людзі адчуюць яе уплыў. Са здароўем ніякіх сур'ёзных праблем не чакаецца, вас будзе радаваць самаадчуванне.



**СКАРПЁН.** Зоркі кажуць, што планеты ўзнясуць вас да поспеху. Вы адчуеце неверагодны прыліў сіл і энергіі, будзеце настолькі натхнёныя, што захочацца ствараць новыя праекты, прымаць важныя рашэнні і рабіць усё для таго, каб вы і вашы блізкія былі шчаслівыя. Удача любіць тых, хто дзейнічае і энергічна рухаецца да мэты. Вы гэта разумееце і ідзяце ў патрэбным кірунку. Прыродная хітрасць дапаможа абысці пасткі канкурэнтаў, а з дапамогай інтуіцыі і працавітасці вы зможаце дасягнуць поспеху ва ўсіх жыццёвых сферах. Каханне вас таксама не пакіне. Паміж закаханымі будзе панаваць ўзаемаразуменне, павага, гармонія, з новай сілай успыхне палаючая іскрынка і ўзнікне бура захапляльных эмоцый. Праблем са здароўем не чакаецца.



**СТРАЛЕЦ.** Пачатак 2019 года прынясе перажыванні, пераважна з-за матэрыяльных праблем. Але выйсце дапамогуць знайсці блізкія сябры і сям'я. Пільна плануйце свае расходы, не ўвязвайцеся ў буйныя авантуры. Але ўжо вясной вы будзеце на пад'ёме, будзеце аптымістычна ісці па жыцці, стараючыся не збаўляць тэмп. А ў жніўні ваш матэрыяльны стан паправіцца настолькі, што вы пачняце думаць аб добраўпарадкаванні дома ці расшыранні жылплошчы. Пра асабістае жыццё можна не хвалявацца, год пройдзе з пяшчотай і цяплом. А восень прынясе нейкае неверагоднае натхненне. У канцы года расслабцеся і прысвяціце час самому сабе.



**КАЗЯРОГ.** Год Свінні прынясе вам, такім сур'ёзным і адказным, нечаканыя, але вельмі прыемныя сюрпрызы. Ён багаты на ключавыя этапы: лёсавызначальныя сустрэчы, якія зменяць абсалютна ўсё, атрыманне жаданай пасады, прапанову рукі і сэрца, марш Мендэльсона, нараджэнне дзіцяці. Выбірайце, што больш падабаецца. Ведайце, перашкоды на шляху ўладкавання асабістага жыцця і поспеху на прафесійнай ніве ў 2019 годзе ў вас мінімальныя. Спрыяльная карцінка на ўвесь 2019 год. Рэалізуюцца даўнія мары, з'явіцца больш вольнага часу і ўстойлівая ўпэўненасць у сабе, сваіх сілах. Каб не ўзніклі праблемы са здароўем, звязаныя з эмацыйнымі і фізічнымі перагрузкамі, умейце адпачываць. Памятайце пра гэта.



**ВАДАЛЕЙ.** Вы ў 2019 годзе будзеце любімчыкам Фартуны. У вас усё атрымаецца. Толькі вызначыцеся з асноўным жаданнем, а пасля імкніцеся яго рэалізаваць, каб стаць яшчэ больш паспяховымі ва ўсіх адносінах і жыццёвых сферах. Калі хочаце наладзіць асабістае жыццё – бярыце ініцыятыву ў свае рукі. Калі хочаце дамагчыся жаданага, навучыцеся своечасова адхіляць расслабляльныя прапановы. Вы не паверыце, але як толькі пачняце займацца чымсьці важным, адразу будуць паступаць прапановы «весялосці». Трэба будзе знаходзіць у сабе сілы прыгожа адмаўляць і працягваць працаваць.Такі закон поспеху. 2019 год – важны перыяд, калі можна сапраўды горы зрушыць! І тады вы будзеце «грабсці грошы лапатай».



**РЫБЫ.** 2019 – гэта год стварэння, закладкі падмурка, прычым як у кар'еры, так і ў асабістых адносінах. Ваша стабільнасць можа стаць падставай для зайздрасці ў нядобразычліўцаў, таму трэба быць абачлівымі ў зносінах. У фінансавым плане таксама прыйдзецца працаваць на будучыню. Творчыя людзі, нарэшце, змогуць рэалізаваць свае задумкі: арганізаваць выставу, выдаць кнігу, зняць фільм і г.д. Ваша работа будзе ацэненая годна, і можа знайсціся чалавек, які захоча праспансіраваць вашу творчасць. І не забывайце, што нічога не падае з неба, таму вынікі залежаць ад вашага рашэння і дзеяння. Каб не даць хваробам ніводнага шанцу – умацуйце імунітэт, правільна харчуйцеся і шмат спіце.

Марыя УРБАНОВІЧ.

# «Я не ў хакеі, але я каля хакея»

## Як з заўзятара мужчына ператварыўся ў работніка прэс-службы «Дынама-Маладзечна»

МАЛАДЗЕЧНА

**Першы раз калегі выцягнулі Андрэя Рагінскага на хакей сем гадоў таму. Мінскае «Дынама» гуляла з «Ак Барс».**

– Гэта быў першы аншлаг на Мінск-Арэне – каля 15 тысяч чалавек, гэта была вельмі цяжкая перамога 6:5 у авертайме. І ўсё, я палюбіў. Калі ў 2014 годзе стала вядома, што ў горадзе будзе свая каманда, быццам узняўся ад любові.

Даведка «РГ»: Авертайм – час, што назначаецца ў ходзе спартыўнага спаборніцтва ў выпадку, калі на працягу асноўнага часу вызначыць пераможцу не ўдалося.

Спачатку Андрэй проста хадзіў на матчы, заўзеў, перажываў. Праз некаторы час улюбёныя заўзятары сталі аб'ядноўвацца. Ездзілі на выезды, падтрымлівалі каманду дома. Андрэю даводзілася шукаць транспарт на выезды, атрыбутыку заўзятарам. Знаходзіў магчымасці зрабіць прыгожыя сцягі, расцяжкі, замаўляў, каб годна прадстаўляць любімую каманду. Паралельна вёў акаўнты ў сацсетках, дзяліўся карыснай інфармацыяй і сваімі развагамі.




Андрэй Рагінскі (справа) і яго жонка Марына.

Фота з асабістага архіва Андрэя РАГІНСКАГА.

### Як стаў працаваць у прэс-службе

Сёлета «зубры» з фарм-клуба мінскага «Дынама» ператварыліся ў незалежную каманду. Па словах Андрэя, заўзятары Маладзечна засталіся зусім без інфармацыі аб камандзе.

Вырашыў залатаць інфармацыйныя дзіркі, стаў збіраць інфармацыю і даводзіць навіны да заўзятараў. Хацеў нешта рабіць добра і прыгожа, таму было не ў цяжар. Неўзабаве ў ліпені мяне запрасіў дырэктар клуба. Сказаў, яго задавальняе тое, што я раблю. Прапанаваў рабіць на палову стаўкі тую ж працу, але ўжо ў якасці прэс-сакратара каманды. Работа цікавая, творчая.

У абавязках – узаемадзеянне са СМІ і грамадствам, праца ў сацсетках, інфармаванне Федэрацыі хакея і камандаў сапернікаў аб выніках матчаў, забеспячэнне фота і відэаматэрыяламі. Па словах Андрэя, дзякуючы гэтай працы ён пазнаёміўся з многімі добрымі людзьмі, якія працуюць у спартыўнай журналістыцы.




Андрэй Рагінскі (справа) дапамагае калегам з тэлебачання – бярэ інтэрв'ю ў Арцёма Зямлянкіна з «Дынама».

### Пашкодзіў руку, калі «зубры» прайгралі

– Хакей на арэне гляджу адным вокам. Цяпер ужо іншыя эмоцыі, матч успрымаецца як праца.

Але прызнаецца, што падчас матча 27 снежня з «Юнацтвам» ад эмоцый утрымацца ўсё ж не ўдалося. «Зубры» прайгравалі 1:0 і за тры хвіліны да канца зраўнялі лік. А потым за 12 секунд ім забілі гол. «Не ўтрымаўся, мы ж адна сям'я, урэзаў па шкле, цяпер рука баліць», дзеліцца мужчына.

У працы Андрэю дапамагае заўзятарка **Лізавета Радчанка**, якая раней танцавала ў групе падтрымкі. Дзяўчыне 16 гадоў, па словах мужчыны, працуе на чыстым энтузіязме. Фатаграфуе, робіць інфаграфіку, вядзе тэкставыя трансляцыі матчаў у сацсетках.

У Андрэя гэта праца не асноўная. Акрамя хакейнага клуба ён зарабляе грошы на адным з дрэваапрацоўчых прадпрыемстваў горада ў аддзеле матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння.

### Стаў на канькі за тры месяцы да гульні

Сам Андрэй на канькі першы раз у жыцці стаў два гады таму і толькі з адной мэтай. Ён марыў пагуляць з хлопцамі з «Дынама» на матчы закрыцця сезона падчас таварыскага матча.

– За тры месяцы да гульні пачаў асвойваць канькі. Пераглядзеў шмат відэаўрокаў, прасіў трэнераў з дзіцячай юнацкай спартыўнай школы дапамагчы, правільна паставіць на лёд. Пераадолеў свае страхі, купіў канькі і – наперад. Атрымалася, вядома, камічна, але я гэта зрабіў. Толькі падчас гульні зразумеў, што амаль не ўмею катацца, там трэба вельмі хутка рэагаваць. Канешне, гуляў у дзяцінстве ў «хакей на зямлі», час быў, машын у двары – не. Але, зразумела, гэта непараўнальна.

Катацца Андрэй працягвае. Прызнаецца, што ў офісе ў яго нават ляжаць канькі.

### Перамаглі сярод балельшчыкаў

Сын Андрэя, **Аляксандр**, і жонка, **Марына**, таксама цікавяцца хакеем. Аляксандр у 12 гадоў не толькі наведвае гульні, але і ўдзельнічае ў мерапрыемствах. Летась, напрыклад, дапамагаў у конкурсах, што праводзяцца ў перапынках.

Жонка Марына падтрымлівае працу мужа і на арэне, і дома. Часам замест мужа пасля матчаў яна аператыўна пераводзіць інфармацыю з прэс-канферэнцый у тэкст.

– Пару гадоў таму праводзіўся конкурс «Мы «Дынама», мы сям'я» сярод сем'яў балельшчыкаў. Ладзілі эстафеты, гульні. Наша сям'я перамагла.

### Прымаў дома «дынамаўскага» Дзеда Мароза

У тым жа 2016 дзеці балельшчыкаў перад Новым годам пісалі віншаванні хакеістам «зуброў».

– Саша таксама напісаў. Сядзім дома, званок у дзверы. Адчыняем – дзяўчаты з групы падтрымкі «зуброў» і хакеіст **Ягор Воранаў**, які пераапрануўся ў Дзеда Мароза. Было вельмі нечакана і прыемна.

**Таццяна КАСЬЯН.**



# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
2. Заклік, які выражае ў кароткай форме кіруючую ідэю, задачу, патрабаванне.
3. Зброя самурая.
4. Свяцільня, звычайна ў выглядзе палкі з наматаным на канцы прасмаленым пакуллем.
5. Чалавек, які жыве паблізу.
8. Ежа з тварагу, падобная з выгляду на аладку.
9. Вузкая пратаптаная людзьмі або жывёламі дарожка.
10. Прадукт мыслення.
12. Раённы цэнтр з тэлефонным кодам 801772.
13. Струмень вады або вадкасці, які з сілай выкідваецца ўгору пад высокім ціскам.
14. Дакумент аб заканчэнні вышэйшай або сярэдняй спецыяльнай навучальнай установы, а таксама аб прысуджэнні вучонай ступені ці прысваенні ганаровага звання.
17. Частка цэлага, падрабязнасць, факт, штрых.
20. Лічыцца, што ў гэтых жывёл цудоўная інтуіцыя. Таму ў час вайны людзі сяліліся толькі ў дамах, дзе жылі яны.
21. Асвятляльны прыбор з крыніцай святла ў шкляным шары або футарале са шклянымі сценкамі.
22. Частка цэлага, падрабязнасць, факт, штрых.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
1. Калыска.
2. Адрэзаны вялікі плоскі кавалак.
4. Прыватнае сельскагаспадарчае прадпрыемства, заснаванае на ўласнай або арандаванай зямлі.
6. Доктар.
7. Першая назва горада Койданаў.
8. Спрошчаны чарцёж, які перадае сістэму, пабудову, сувязь частак.
10. Бацькаў або матчын бацька.
11. 27-гадовы жыхар ЗША прадаў яе, каб атрымаць грошы на платнае паляпшэнне свайго персанажа ў камп'ютарнай гульні.
12. У пажарных гэты інструмент мае форму конуса.
13. Лоўкі прыём, заснаваны на малавядомых гледачам фізічных ці хімічных з'явах або проста лоўкасці рук.
15. Сталіца Таджыкістана, у перакладзе з персідскай значыць «панядзелак». У гэтым горадзе па панядзелках працаваў базар.
16. Сукупнасць звязаных паміж сабой дзеянняў, падзей, у якіх раскрываецца асноўны змест мастацкага твора і характары дзеючых асоб.
18. Імператар Францыі Напалеон III дарыў сталовыя прыборы з гэтага металу, таму што ён лічыўся нашмат больш дарагім, чым серабро.
19. Раней гэта сістэма была пашукавікам, які знаходзіў дадзеныя не даўжэй чым за адну секунду. Цяпер гэта праграма, якую выкарыстоўваюць у гэтай прафесіі.
23. Пах гэтага падгніўшага фрукта, па меркаванні нямецкага паэта Фрыдрыха Шылера, пабуджае да творчасці.

## Адказы на крыжаванку з №52

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 2. Маліна. 3. Экватар. 5. Жыць. 9. Хутар. 11. Калядкі. 13. Дзверы. 14. Вяроўка. 18. Агіда. 19. Акуляры. 20. Цемра. 21. Цяга. 23. Мандарын. 25. Жарт. 26. Этыка. 27. Абзац.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Школа. 4. Экспанат. 6. Халера. 7. Цытата. 8. Ох. 10. Венгрыя. 12. Маятнік. 15. Эротыка. 16. Змеі. 17. Папера. 21. Цукат. 22. Радыё. 24. Юравічы. 25. Жонка. 28. Абсурд.

## ● ГАРАСКОП 4-10 СТУДЗЕНЯ


**АВЕН.** Спрыяльная дамашняя абстаноўка, умацаванне сямейных адносінаў, а для адзінокіх, магчымасць абзавесціся спадарожнікам жыцця.


**ЦЯЛЕЦ.** Ад вас спатрэбіцца карпатлівая праца. Нічога незвычайнага не адбудзецца, бо вы прывыклі шмат працаваць і вам гэта не ў навіну і не ў цяжар. У той жа час з'яўляецца жаданне і магчымасць зірнуць на ўсё пад іншым вуглом. А змяніўшы сваю жыццёвую пазіцыю, змяніўшы свае погляды на многія факты, акружэнне і праведзеную працу, з'яўляецца жаданне змяніць і сваё жыццё.


**БЛІЗНЯТЫ.** Актыўнае праяўленне эмоцый не давядзе вас да дабра. У вас ёсць магчымасць стрымліваць сябе і кантраляваць унутраныя парывы, але, хутчэй за ўсё, вы будзеце дзейнічаць наадварот і яшчэ больш падагрэеце сітуацыю, каб выплюхнуць сваё абурэнне з падвоенай сілай.


**РАК.** Спрыяльныя дні з эмацыйнага пункту погляду для ўсіх, хто шукае сабе другую палавінку, жадае новых пачуццяў або хоча адрадзіць старыя адносіны, дадаўшы ім сіл і жарсці. Атрымлівайце асалоду ад прыемных момантаў і не губляйце галавы.


**ЛЕЎ.** Праца, якую трэба будзе рабіць, вам хутка абрыдне, і захочацца змяніць абстаноўку, прыўнесці ў жыццё нешта новае і лёгкае або дазволіць сабе пагультайнічаць. І гэтаму быць. І вы будзеце адчуваць сябе максімальна радасна і камфортна.


**ДЗЕВА.** Усё будзе ісці добра і спакойна, вы зможаце займацца звыклымі справамі, творчасцю і рукадзеллем, атрымліваючы ад гэтага задавальненне. Але каб гэта не прывяло да негатыўных наступстваў, не забывайце пра ўсё астатняе. Бо іншыя справы і людзі таксама патрабуюць вашай увагі.


**ШАЛІ.** Ад вас запатрабуецца цярпенне і вытрымка, бо толькі чакаючы патрэбнага моманту, вы зможаце дамагчыся жаданага.


**СКАРПІЁН.** Усё ў вашых руках, перад вамі адкрываюцца новыя магчымасці і з'яўляюцца сілы, каб дасягнуць жаданага. Галоўным памочнікам будзе розум, спадзявайцеся на сваю магчымасць праплічваць крокі наперад, рабіць штосьці праз сілу ці насуперак пачуццям, і тады ваша жыццё будзе значна лягчэйшым.


**СТРАЛЕЦ.** Пачатак тыдня будзе трыумфальным. Вы нарэшце адчуеце сябе не толькі на сваім месцы, але і дакажаце ўсім астатнім, што вы маеце пэўную вагу і значнасць.


**КАЗЯРОГ.** Спрыяльны перыяд для цёплых успамінаў і правядзення часу ў коле сям'і або блізкіх сяброў, што дазволіць вам папоўніць сілы і адпачыць.


**ВАДАЛЕЙ.** Вам трэба будзе выбіраць, на што звярнуць увагу – на матэрыяльнае ці духоўнае. Або знайсці спосаб, як ураўнаважыць свае магчымасці і патрэбы і паспець усюды. Дні спрыяльныя і для аднаго, і для іншага, трэба толькі прыняць правільнае рашэнне.


**РЫБЫ.** Вы будзеце замкнёныя ў сабе і не знойдзеце часу і жадання для таго, каб пагутарыць з блізкімі, роднымі, даўнімі сябрамі. У вас не будзе жадання і сіл нават на тое, каб проста радавацца жыццю. Высновы, якія вы будзеце рабіць, могуць быць далёкімі ад рэчаіснасці.

Марыя УРБАНОВІЧ.

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 2 | 3 | | | 9 | 5 | | |
| 4 | | | 3 | | 2 | | | 7 |
| | | 8 | | | 4 | | 2 | 6 |
| | | 5 | | | | 8 | 6 | |
| 6 | | | 4 | | | | 1 | |
| 3 | | | | | | 2 | | |
| | 1 | 7 | | | | 9 | | |
| 5 | | | | | | | 7 | 1 |
| 9 | | | 7 | | 1 | | | 8 |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017


## Чытайце праз тыдзень

- Хочаце быць у курсе ўсіх святаў і важных дат асноўных канфесій рэгіёна? Што і калі адзначаюць каталікі, праваслаўныя, пратэстанты, мусульмане, будысты, іудзеі – чытайце праз тыдзень.



● ПРОСТА АНЕКДОТ

Камары ў лесе кусаюць цябе не дзеля ежы, яны адносяць кроў на аналіз зязюлі, каб яна змагла даць абгрунтаваны прагноз працягласці твайго жыцця.

***

Будзільнік – гэта калі я працягваю спаць, але ўжо пад музыку і з некаторым намаганнем.

***

З першым дзіцем бацькі кіпяцяць усё. З другім – проста апалосваюць вадой. Калі ў трэцяга дзіцяці сабака адняў соску, то гэта ўжо праблема дзіцяці, як адабраць яе назад.

***

Раней за мной пастаянна бегалі дзяўчаты, а потым я перастаў красці іх сумачкі.

***

Нішто так не ўпрыгожвае чалавека, як сяброўства з уласнай галавой.

## На Вілейшчыне завяршылі акцыю «Ёлка жаданняў»

ВІЛЕЙКА

На базе вілейскага Цэнтра карэкцыйна-развіццёвага навучання і рэабілітацыі зладзілі фінальны этап акцыі «Ёлка жаданняў» у межах рэспубліканскага праекта «Цуды на Каляды».

18 дзяцей з асаблівасцямі напісалі лісты Дзеду Марозу, дзе расказалі пра свае мары і жаданні. Валанцёры вадзілі з дзецьмі карагоды, спявалі, чыталі вершы і ўдзельнічалі ў конкурсах.

Галоўным цудам сталі падарункі, пра якія марылі і пісалі Дзеду Марозу дзеці.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота facebook.com.

Вілейка. Уручэнне падарункаў.



## 5 студзеня, субота

**Вецер:** паўночна-заходні, 2-5 м/с




Усход 9.32
Захад 17.03
Даўжыня дня 6.27

Усход 8.51
Захад 16.40
Маладзік

### ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. ВАЛОЖЫН

Мінімальная тэмпература -29,1°С у 1987 годзе
Максімальная тэмпература +5°С у 2007 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 10,9 мм у 1994 годзе

Паводле meteoinfo.by.



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Як вы пазнаёміліся са сваёй другой палавінкай?



**Дыяна Савіч, інжынер-эколаг:**

– Ён быў сябрам майго брата, пазнаёміліся дома. Трынаццаць гадоў разам. З іх сем жанатыя.



**Андрэй Карповіч, начальнік транспарту:**

– Атрымалася, што яна прыйшла да нас працаваць, усё непрыкметна закруцілася і закруцілася. Вось так і пазнаёміліся. Да знаёмстваў у сетцы стаўлюся станоўча, бо неаднаразова ў халасцяцкім жыцці даводзілася знаёміцца. Але нешта было не тое.



**Улад Трацяк, ІП:**

– У начным клубе. Недзе праз 10 месяцаў пачалі камунікаваць «Укантакце». Праз год сустрэліся ў тым жа клубе, пачалі сустракацца. З першых дзён было адчуванне роднай душы, быццам знаёмыя шмат гадоў. Праз два з паловай года пажаніліся, праз год нарадзіўся сын.



**Аляксандр Кісель, фатограф:**

– Вучыўся ў авіяцыйным каледжы, ехаў у нарад у Мінск. Спазніўся на цягнік, сеў на наступны. У вагоне сядзела дзяўчына, чытала. Зразумеў, яна асаблівы чалавек, падысці рашыўся не адразу. Пасля правадзіў да метро, узяў нумар. У той жа вечар прызначыў спатканне. З Кацяй мне вельмі пашанцавала.



**Дыяна Галуза, ваеннаслужачая:**

– Пазнаёміліся мы ў Маладзечанскім гандлёва-эканамічным каледжы. Вучыліся па адной спецыяльнасці – тэхнік-праграміст, але ў розных групах.



**Надзея Багушэвіч, кансультант, спецыяліст па апрацоўцы інфармацыі:**

– У інтэрнэце. Раней была такая сацсетка «Я тут». Там і пазнаёміліся. Разам ужо больш за шэсць гадоў, жанатыя чатыры, гадуем сына Давіда, якому восем месяцаў.



**Наталля Каховіч, бухгалтар:**

– У студзені ўжо 18 гадоў, як разам. Знаёмыя з дзяцінства. Прыязджала ў вёску да бабулі. Гулялі, не думалі, што пажэнімся. У нас былі два вяселлі – у Маладзечне і ў царкве на радзіме мужа ў вёсцы Дварэц на Брэстчыне. У мяне былі дзве сукенкі, дзве фаты.

**Падрыхтавала Таццяна КАСЬЯН.**


Рэгіянальная газета. Rh.by

Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 4200 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№1 (1236) 4.01.2019. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РолПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 17. Падпісана ў друк у 9.00 3.01.2019.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**



Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты »Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.